10 ліпеня 2015 | № 27 (444)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Людзі на камянях і людзі на балоце
стар. 4

5 ЗА ПАЦУКА АДКАЖАШ!



Грамадскія актывісты вырашылі адабраць хлеб у КДБ.
У краіне стартавала грамадзянская кампанія па супрацьдзеянні тэрарыстычнай пагрозе...

6 ДЗЕ ЗНАЙСЦІ ЎЛЕТКУ ПРАЦУ?

Мы пацікавіліся ў выпускнікоў і студэнтаў, як і дзе яны шукаюць падпрацоўку, каб зарабіць грошы на адпачынак або навучанне

13 ХТО СПЫНІЦЬ ЦЫПРАСА?



Адным з наступстваў вынікаў рэферэндуму 6 ліпеня стала маргіналізацыя лагера апанентаў Алексіса Цыпраса. Хто з грэчаскіх палітыкаў мае шанс кінуць выклік лідару левага блоку «Syriza»?

14 БЕНВЕНУТА ЧЭЛІНІ З-ПАД РУЖАН

Ігнат Цэйзік — мастак і фальшываманетчык, авантурыст і патрыёт. «Гістарычная асоба з ліку жыхароў ваколіцаў», — так характарызуе Ігната Цэйзіка мемуарыст Цыпрынус

# Што агульнага ў Беларусі з Грэцыяй?

## Абедзве жывуць не па сродках і праядаюць крэдыты



Сяргей ПУЛЬША

Увесь мінулы тыдзень прайшоў «пад знакам Грэцыі». Краіна на рэферэндуме адмовілася выплачваць выдадзеныя ёй раней пазыкі. У сувязі з гэтым у ЕС паўстала пытанне, што рабіць з грэкамі далей: ці павінна такая краіна быць у ЕС.

Чаму Грэцыя назапасіла такія даўгі перад знешнімі крэдыторамі? Як ні дзіўна, у Грэцыі працавала мадэль «беларускага эканамічнага цуду», і працавала даволі працяглы час. Грэцыя ўступіла ў еўразону ў 1 студзеня 2001 года. Разам з гэтым яна атрымала доступ да лёгкіх крэдытных рэсурсаў. Але гэтыя крэдыты краіна накіроўвала не на развіццё, а на добрае жыццё. За чужы кошт там пабудавалі «сацыяльна арыентаваную дзяржаву».

У краіне хапала кур'ёзных надбавак і субсыдый. Напрыклад, ніхто не кантраляваў медыцынскія ільготы. У выніку з'явілася шмат «невідушчых», якія атрымлівалі грошы за інваліднасць па зроку, і ў той жа час працавалі таксістамі. Некаторыя дзяржаўныя ўстановы ўсталявалі надбаўку служачым за тое, што яны своечасова прыходзяць на працу! А ў некаторых дзяржустановах надбаўка давалася тым, хто самастойна рабіў ксеракопію дакументаў.

Пераезд чыноўніка з паверха на паверх у будынку аплачваўся як паўнавартасны пераезд у іншы будынак — з транспартнымі выдаткамі і аплатай грузчыкаў. Больш за тое, чыноўніку яшчэ і даплачвалі за нязручнасці!

Зразумела, у такой краіне, калі грошы можна атрымаць з паветра, нармальна ніхто не працаваў. Мой знаёмы ў адпачынку ў Грэцыі паехаў на экскурсію, і ў іх зламаўся аўтобус. Справа была пад вечар, і людзям хацелася ў гатэль. Новага аўтобуса чакаць было паўтары гадзіны, і таму турысты выклікалі таксоўкі. На шматлікія выклікі прыехала адна (!) машына, грэк-кіроўца паглядзеў на турыстаў, нешта сабе пад нос прабурчэў, развярнуўся і з'ехаў. Без кліентаў, пусты! На пытанне турыстаў, «што гэта было?» перакладчык сказаў: «Вы яму не спадабаліся».

Прыкладна так і працавала ўся краіна. Навошта працаваць, калі ўсё дадуць «за так»?

Гэтая сацыяльная халява магла скончыцца ў 2008 годзе, калі грымнуў сусветны эканамічны крызіс. Грэцыя апынулася ў першых яго шэрагах і ўзвыла: «Дайце грошай!»

Добранькія МВФ разам з Еўрасаюзам далі грошы — гады чатыры таму Еўрапейскі банк і МВФ на мадэрнізацыю інфраструктуры і структурныя рэформы ў эканоміцы далі краіне ў агульным 240 мільярдаў еўра. Памятаеце, Аляксандр Лукашэнка неаднаразова казаў, што калі б Беларусі далі хаця б палову «грэчаскіх крэдытаў», то ў нас была б не краіна, а цукерка?

Добра, што не далі, а тое б і мы зараз былі ў сітуацыі Грэцыі. Таму што, як і Беларусь, грэкі не збіраліся праводзіць тыя самыя «структурныя рэформы», на якія выдаваліся грошы, а працягвалі жыць на шырокую нагу. Калі ж надышоў час гэтыя грошы аддаваць, краіна апынулася банкрутам. Знешні доўг Грэцыі складае каля 350 мільярдаў еўра, альбо 185% ВУП.

У чым розніца і падабенства Беларусі і Грэцыі? Падабенства




**Валавы знешні доўг Беларусі складае**
**40 061 400 000$**

ў тым, што і там, і там выбудаваная «сацыяльная дзяржава» на чужыя грошы. Праз расійскія датацыі і «нафтавы афшор», «газ у абмен на пацалункі» ды іншыя прывілеі Беларусь здолела часова стварыць «сацыяльную дзяржаву для народа». Але ўсё добрае калі-небудзь заканчваецца, скончыўся і гэты ільготны перыяд. А Беларусь, як і Грэцыя, не выконвала ўмовы крэдытавання. Напрыклад, узяты на «структурныя рэформы» крэдыт stand-by у МВФ у 2009 годзе пайшоў на «подкуп выбарцаў». За ім грымнуў крызіс 2011 года, і Беларусь узяла новы крэдыт у Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС пад абавязальніцтва прыватызаваць дзяржуласнасць на $2,5 мільярда штогод. І гэтыя абяцанкі засталіся не выкананымі.

Розніца паміж Беларуссю і Грэцыяй у тым, што мы пакуль спраўна сплачваем сваю запазычанасць. З крэдытам МВФ 2009 года мы ўжо разлічыліся, хоць і з цяжкасцю. З гэтага вынікае наша надзея ўзяць грошы ў МВФ яшчэ раз — з 15 ліпеня эксперты фонду будуць працаваць у сінявокай, каб ацаніць мэтазгоднасць выдзялення новых грошай. А вось з крэдытам АКФ ЕўрАзЭс праблема — яго давядзецца рэструктурызаваць. Тым больш, што правапераемнік гэтага фонду — Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця — пакуль што не ўзгадніў з уладамі сінявокай новага стабілізацыйнага крэдыту Мінску.

Розніца яшчэ і ў тым, што беларусы звыклі зацягваць паясы — у нас няма такой колькасці ільготаў насельніцтву, як у Грэцыі. Але наўрад ці можна сказаць, што ў нас няма і неабгрунтаваных затратаў.

І яшчэ пра пазыкі. Валавы знешні доўг Беларусі на 1 студзеня 2015 года склаў 40 мільярдаў 61 мільён 400 тысяч доляраў ЗША, або 52,8% ВУП. Альбо $4 225,4 на душу насельніцтва, уключаючы немаўлят і пенсіянераў. Між тым, мы працягваем дамагацца новых крэдытаў, і зусім не гатовыя пачынаць тыя самыя структурныя рэформы ў эканоміцы.

Па сутнасці, пытанне толькі адно: як доўга працягне краіна без рэформаў? Бо без іх «грэчаскі сцэнар» — толькі справа часу.

# Навошта нам ШАС і БРІКС?

Генадзь КЕСНЕР

**Афіцыйны беларускі лідар вырашыў узяць удзел у самітах Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС), а таксама БРІКС, куды ўваходзяць Бразілія, Расія, Індыя, Кітай і Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка. Навошта?**

Як адзначае палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі, сёння ў ШАС старшынюе Расія, і Лукашэнка запрошаны на саміт паводле рэкамендацыі Пуціна. Эксперт нагадвае, што ШАС — гэта ўсё ж не расійская структура, але больш кітайская, там дамінуе менавіта Пекін, а беларускі кіраўнік нядаўна сустракаўся з кітайскім лідарам, які наведваў Беларусь. «Потым у Беларусь прыязджаў прэзідэнт Індыі. Дарэчы, да ШАС падпаўзае не толькі Індыя, але і Пакістан, дзе нядаўна быў Лукашэнка. Так што ён, калі не лічыць цэнтральна-азіяцкія краіны, што ўваходзяць у ШАС, ведае там многа каго, і там шмат хто ведае Лукашэнку», — канстатуе суразмоўца.

«Але падкрэсліваю, што ў Уфу Лукашэнка паехаў менавіта па запрашэнні і па рэкамендацыі Пуціна. А навошта Лукашэнка Пуціну ў гэтых структурах? Я нагадаю, што за савецкімі часамі Беларуская ССР была чальцом ААН, на чым настаяў Сталін, бо, як кажуць, лішні голас у міжнародных структурах не перашкодзіць», — кажа Раман Якаўлеўскі.

Эксперт нагадвае, што ў ШАС у Беларусі быў статус «партнёра па дыялогу». Больш высокі статус — назіральнік, таму эксперт не выключаў, што Беларусь можа павысіць свой статус да назіральніка. Што, дарэчы, і адбылося.«Хаця там перавага аддаецца тым краінам, якія мяжуюць адна з адной. А Беларусь мяжуе з Расіяй. Дарэчы, зараз у такім жа статусе «партнёра па дыялогу» разам з Беларуссю знаходзяцца Турцыя і Шры-Ланка», — нагадаў палітычны аглядальнік.

Што рабіць Беларусі ў БРІКС — пытанне цікавае, гэта можа выклікаць толькі ўсмешку, кажа Якаўлеўскі. «Проста два саміты адбываюцца ў адным месцы. Я не думаю, што на саміце БРІКС ён будзе сядзець за агульным сталом, але нефармальна пагутарыць (а там будуць і прэзідэнт Бразіліі, і кіраўнік Паўднёвай Афрыкі, і прэм'ер-міністр Індыі) магчымасць, відаць, будзе. Але яшчэ раз падкрэслю: Лукашэнку на гэтыя саміты запрасіла Расія як старшыня ШАС. Так што будзем чакаць чарговы рапартаў пра пераможную шматвектарную знешнюю палітыку беларускага кіраўніцтва», — іранізуе эксперт.

# Больш за месяц няма звестак ад Ігара Аліневіча

**Як паведаміла маці палітвязня Валянціна Аліневіч, больш за месяц няма звестак ад яе сына Ігара Аліневіча, які адбывае пакаранне ў калоніі «Віцьба-3».**

Гэты факт выклікае вялікую занепакоенасць, бо апошняе, што вядома родным і праваабаронцам пра лёс палітвязня — гэта чарговае змяшчэнне ў ШІЗА яшчэ ў траўні.

Юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна» Наста Лойка адзначае, што абмежаванне камунікацыі зняволеных — гэта адна з найбольш распаўсюджаных форм уціску.

«Адсутнасць кантакту са зняволенымі, канешне, падштурхоўвае грамадства, родных і абаронцаў да думак, што чалавек мог быць змешчаны ў ШІЗА, у дачыненні да яго маглі ўжыць катаванні ці збіць. Тое, што адміністрацыя спецыяльна мэтава абмяжоўвае камунікацыі, нагадвае такую нагнятальную сітуацыю запужвання. Што тычыцца непасрэдна Ігара Аліневіча — да яго ў калоніі пільная ўвага найперш праз яго асаблівы статус. Таму адміністрацыя не хоча, каб пра яго шмат ведалі».

Праваабаронцы звязваюць факты ўціску палітвязняў таксама і з распачатай выбарчай кампаніяй, якая заўсёды характарызавалася падвышэннем увагі ўладаў да зняволеных і абмежаваннямі, у тым ліку і своеасаблівай цэнзурай, адтунасцю камунікацыі. Адзін з апошніх выпадкаў — нядаўняя сітуацыя з палітвязнем Мікалаем Дзядком, да якога беспадстаўна не пусцілі адваката.

«Атрымоўваецца своеасаблівая паралель — чым больш мы кажам пра праблему палітвязняў у нашай краіне, тым больш узмацняецца на іх ціск. Але ўсё адно гэта сітуацыя, якой варта надаваць галоснасць», — сцвярджае Валянціна Аліневіч.

Нагадаем, Ігар Аліневіч прысуджаны ў 2011 годзе да васьмі гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў «хуліганстве», якое ён ніколі не прызнаваў. З моманту пераводу ў калонію «Віцьба-3» у ліпені 2014 года Аліневіч падвяргаецца шматлікім уціскам: прынамсі шэсць разоў ён быў змешчаны ў адзіночную камеру, сувязь з роднымі і знаёмымі адміністрацыя калоніі трымае пад жорсткай цэнзурай, палітвязень не аднойчы пазбаўляўся сустрэч са сваякамі.

**palitviazni.info, spring96.org**

# Спыніць ціск на фрылансераў!

**ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выступіла з заявай у сувязі з узмацненнем ціску на журналістаў-фрылансераў напярэдадні выбараў прэзідэнта.**

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца:

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выказвае рашучы пратэст у сувязі з узмацненнем адміністрацыйнага пераследу журналістаў-фрылансераў, матэрыялы якіх з'яўляюцца ў замежных СМІ.

З пачатку 2015 года суды 22 разы штрафавалі журналістаў за гэта «парушэнне» (за ўвесь 2014 год такіх выпадкаў было 10). Агульная сума штрафаў ужо склала больш за 117 мільёнаў рублёў.

Міліцыя і суды насуперак Закону «Аб СМІ» распаўсюджваюць абавязак атрымання акрэдытацыі ў МЗС на журналістаў-фрылансераў, якія не з'яўляюцца штатнымі супрацоўнікамі замежных СМІ. А затым неабгрунтавана прыраўноўваюць дзейнасць без акрэдытацыі да парушэння парадку выпуску і распаўсюду прадукцыі СМІ (ч. 2 арт. 22.9. Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Тым часам, прадукцыю СМІ вырабляюць не журналісты, а рэдакцыі, і распаўсюджваюць яе не журналісты, а распаўсюднікі СМІ. Выходзячы з пададзеных у Законе «Аб СМІ» дэфініцый, журналіст не з'яўляецца суб'ектам вырабу прадукцыі СМІ, гэтак жа як і яе распаўсюду. Адпаведна, яго нельга прыцягнуць да адказнасці за парушэнне парадку ажыццяўлення гэтай дзейнасці.

Больш за тое — прыцягненне да адказнасці журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі парушае Канстытуцыю і міжнародна-прававыя абавязальніцтвы Рэспублікі Беларусь. Арт. 34 Канстытуцыі Беларусі гарантуе грамадзянам права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, пра палітычнае, эканамічнае, культурнае і міжнароднае жыццё, стан навакольнага асяроддзя. Пра гэтае ж права гаворыцца і ў арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заклікае:

— кіраўніцтва МУС і КДБ — разгледзець правамернасць дзеянняў сваіх супрацоўнікаў па названых вышэй справах. Замест таго, каб змагацца са злачыннасцю і абараняць канстытуцыйны лад, дзясяткі супрацоўнікаў МУС і КДБ арганізавалі сапраўднае паляванне на журналістаў;

— суды — пры разглядзе адміністрацыйных спраў кіравацца Канстытуцыяй і міжнародна-прававымі дамовамі; не дапускаць пашыральнага тлумачэння актаў заканадаўства краіны, якія вызначаюць адказнасць;

— Вярхоўны суд — звярнуць увагу на безумоўнае выкананне судамі законаў і захаванне іерархіі прававых актаў, а таксама на незалежнасць судоў пры вынясенні судовых пастаноў. У многіх адміністрацыйных справах супраць журналістаў незразумела якім чынам апынуліся матэрыялы з іншых падобных спраў; з'яўленне такіх «узораў рашэнняў» у судовых справах можна разглядаць як ціск на суд;

— Пракуратуру Рэспублікі Беларусь, пракурорскіх работнікаў — апратэставаць не адпаведныя заканадаўчым актам пастановы па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях па ч. 2 арт. 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь;

— Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь — распачаць вытворчасць па справе аб ліквідацыі прабелаў, выключэнні калізій і прававой нявызначанасці ў нарматыўных прававых актах, якія рэгулююць атрыманне і распаўсюд грамадзянамі Рэспублікі Беларусь інфармацыі, у тым ліку незалежна ад дзяржаўных межаў».

**Паводле baj.by**

# Куды падацца беларускамоўнаму беларусу ў Беларусі?

Віктар МАЛОЧКА

**Пытанне не такое і простае, як можа падацца на першы погляд. Вось нядаўна міністр замежных спраў нашай дзяржавы спадар Макей заявіў, што ўлада не дапусціць у Беларусі нацыяналізму, але чыйго? Беларускага, расійскага, а можа лаоскага?**

Наколькі я зразумеў, дык спадар Макей меў на ўвазе нацыяналізм як нешта дрэннае. На жаль для мяне, але яго ў гэтым падтрымаў старшыня ТБМ Трусаў? Я з'яўляюся сябрам Салігорскай суполкі ТБМ, яе сябрам з'яўляецца і мой дарослы сын Малочка Аляксандр, якога нядаўна затрымалі супрацоўнікі ДАІ Салігорску, і якому ж было адмоўлена ў складанні пратаколу па-беларуску.

Гісторыя гэта мае працяг. Пратакол на Аляксандра быў складзены за тое, што ў яго на аўто на пасажырскіх вокнах былі так званыя шторкі, што дапускаецца тэхнічным рэгламентам Рэспублікі Беларусь. Гэта па-першае. Па-другое, пратакол складалі на яго як за паўторнае парушэнне на працягу года.

У пятніцу, 2 ліпеня, ён быў выкліканы ў Салігорскае ДАІ для разгляду справы. Аказалася, што паўторнасці няма, і супрацоўнікі ДАІ хочуць перапісаць пратакол, што ўсё ж такі паўторнасці няма, але яны і слухаць не хочуць пра складанне пратаколу па-беларуску. Адклалі разгляд — будуць думаць! (Хачу, каб мяне зразумелі правільна — я ж не супраць таго, каб супрацоўнікі складалі нейкі пратакол, калі яны лічаць, што было нейкае парушэнне, але я за тое, каб гэты пратакол быў складзены па-беларуску. І гэта прынцыпова!)

Чым яны гэта абгрунтоўваюць, дык гэта тым, што ў краіне двухмоўе. А зараз пытанне да спадароў Макея і Трусава: ці павінен просты грамадзянін нашай краіны ведаць абедзве дзяржаўныя мовы і ці мае ён права ведаць і размаўляць толькі на беларускай мове? І што яму рабіць, калі ён не ведае альбо не хоча ведаць рускай мовы? Ці павінны дзяржаўныя служачыя, у тым ліку і супрацоўнікі ДАІ, ведаць абедзве дзяржаўныя мовы і не «адфутбольваць» адну з іх — беларускую. Што павінна рабіць дзяржава з тымі службоўцамі, якія не ведаюць дзяржаўных моваў? Дык вось, я ўсё ж такі нейкі юрыст — službоўцы, дзяржслужачыя павінны ведаць абедзве дзяржаўныя мовы, а просты грамадзянін мае права быць нават глуханямым, калі так сталася з ім альбо ён так хоча сам!

А зараз падсумуем: я лічу, што калі тэхнічным рэгламентам дазваляецца прымяненне штораk, то парушэння ніякага не было, і супрацоўнікі ДАІ аб гэтым не маглі не ведаць. Але вось якую інфармацыю мне даслалі на пошту — гэта раздрукоўка са старонкі «УКантакце» сына аднаго з супрацоўнікаў ДАІ, які затрымліваў Аляксандра, і якому 17 гадоў. Што там напісана? Што ён «русский». У падарунак сваім сябрам дасылае георгіеўскія стужкі, ну і, што мяне ўразіла, што ў перапісцы са сваімі сябрамі па факту затрымання Аляксандра і потым, калі гэта было на сайтах, ён піша: «Найду этого националиста...» Гэта піша 17-гадовы юнак, сын супрацоўніка ДАІ, які працуе на беларускую дзяржаву. І заўважце, што ў вачах гэтага хлопца, Аляксандр «нацыяналіст» (у самым дрэнным фармаце) толькі за тое, што запатрабаваў, каб склалі пратакол на дзяржаўнай беларускай мове!

А зараз я магу сабе дапусціць вось што: на лабавым шкле аўто Аляксандра ёсць два маленькіх сцяжка — БЧБ і «жоўта-блакітны» (ні адзін з іх заканадаўча не забаронены). І калі сын супрацоўніка ДАІ так лёгка адносіць людзей да нацыяналістаў, то можна ўявіць, з якімі думкамі ходзіць на працу бацька і за якія з двух сцяжкоў затрымалі аўто Аляксандра. Ці за абодва адразу? Ці можа так атрымацца, што спынілі за сцяжкі, бо не «нравяться», а паколькі яны ж не забароненыя, то «прычэпімся» за што-небудзь?

Дык чыйго «нацыяналізму» не павінна дапусціць беларуская дзяржава? Прабачце, але не я гэта ўсё пачаў!

**ucpb.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Па кропельцы ў бюджэт

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Лета пакрысе забівае беларускі эканамічны цуд. Насельніцтва імкнецца з'ехаць на адпачынак з краіны. У сувязі з гэтым назіраецца павышаны попыт на валюту.**

Вясновыя месяцы дадавалі аптымізму Нацбанку: насельніцтва, апынуўшыся ў вымушаных прастоях, панесла здаваць у банкі валюту з кубышкаў. Але зараз назіраецца адваротная сітуацыя. Ізноў пайшло вымыванне валюты з краіны.

Як сведчыць статыстыка, у чэрвені грамадзяне краіны прыкметна павялічылі куплю валюты. Валавая купля яе склала $507,8 млн. — на 29% больш, чым у маі ў наяўным выразе, то бок, паперкамі. Безнаяўная купля валюты таксама павялічылася. Насельніцтва набыло безнаяўнымі зялёнымі $148,6 млн. (на 33,3% больш), а прадало толькі $49,4 млн. (на 9,9% менш).

Лічбы ліпеня-жніўня па пакупцы валюты насельніцтвам будуць, напэўна, яшчэ менш аптымістычныя для Нацбанка. Між тым, напачатку жніўня краіна павінна выплаціць па еўрабондах каля $1 млрд. Не выключана, што сітуацыя з дэвальвацыяй можа здарыцца нават раней за прэзідэнцкія выбары. І не кажыце, што мы вас не папярэджвалі.

У той жа час урадаўцы спрабуюць не дапусціць такога сцэнару і шалёна шукаюць грошы. Як звычайна, як мы неаднаразова казалі, звыклым чынам. Напрыклад, Мінфін Беларусі пасля прыкметнага перапынку вяртаецца да рублёвых запазычанняў на ўнутраным рынку краіны. На мінулым тыдні гэтая ўстанова анансавала прамы продаж кароткатэрміновых рублёвых аблігацый з аб'ёмам эмісіі 1,5 трлн. рублёў. Тэрмін звароту аблігацый усталяваны ў 140 дзён. Даходнасць, якую абяцаюць улады, роўная бягучай стаўцы рэфінансавання Нацбанка РБ — 25% гадавых.

Адначасова з гэтым абвешчаны і выпуск валютных аблігацыяў. Фіксаваная стаўка па іх усталяваная на ўзроўні 7% гадавых. Гэта вышэй, чым сёння прапануюць банкі па валютных укладах (у сярэднім 5–6%, у лепшым выпадку — 6,5%).

Яшчэ адзін цікавы момант — калі ў 2012 і 2013 гадах аблігацыі прадаваліся толькі праз Беларусбанк, то на гэты раз у спісе ўжо 11 банкаў і УП «АСБ Брокер». Хочаце аблігацыі — калі ласка, запрашаем у бліжэйшы банк. Усё для людзей.

Для чаго Мінсфін збірае грошы? Эксперты лічаць, што гэтыя выпускі каштоўных папераў патрэбныя, каб прафінансаваць чаканы дэфіцыт бюджэту, або рэфінансаваць раней узніклыя рублёвыя даўгі перад суб'ектамі гаспадарання (напрыклад, перад «Беларуськаліем»). То бок, у бюджэце, хутчэй за ўсё, утварылася дзірка, пра якую мы пакуль мала што ведаем.




Але ёсць і яшчэ адна версія. Грошы патрэбныя не на пэўную «дзірку», а проста іх зусім няма. Эксперт паваліўся, замежныя крэдыторы не спяшаюцца развязваць гаманцы, інвестары ў краіну таксама не кідаюцца. Прыходзіцца збіраць з міру па нітцы — $50 млн. з аблігацый, яшчэ кропельку з «дармаедаў», у крайнім выпадку можна што-небудзь прыватызаваць, ну і «братэрская» Расія, дасць Бог, не кіне.

Гэтыя кропелькі выліваюцца ў цікавыя рашэнні. Вось яшчэ адно: 2 ліпеня Аляксандр Рыгоравіч падпісаў указ пра электронную чаргу на мяжы. Здавалася б, зручна: указ дазваляе браніраваць час уезду ў аўтамабільныя пункты пропуска праз дзяржмяжу як фізічных, так і юрыдычных асобаў. Але ёсць нюанс. За гэта, аказваецца, трэба плаціць, бо ўказ рэгулюе і «спагнанне платы за браніраванне ў сістэме электроннай чаргі». Заплаціць за тое, што ты стаіш у чарзе, — крутая прыдумка, не спрачаюся.

Не, канешне, раней на гэтым зараблялі грошы тыя, хто прафесійна займаў чаргу, а потым прадаваў гэтае месца тым, хто спяшаецца. Але каб такое зрабіць на дзяржаўным узроўні — гэта дзесяць балаў за вынаходніцтва!

Але калі ўжо сказалі «а», трэба казаць і «бэ». Давайце аформім «прафесійных стаяльшчыкаў у чарзе» як індывідуальных прадпрымальнікаў, прымусім іх плаціць падаткі і кожнаму дадзім касавы апарат. А тое ў перыяд адпачынкаў гэты бізнэс квітнее. Тым больш што працаваць яны будуць толькі летам, калі памежныя пераходы запруджаныя грамадзянамі, што мараць пра мора. А гэта — менш за 183 дні ў год. У астатні перыяд ім можна налічыць падатак на дармаедства.

Шукаючы адной рукой грошы ў кішэнях беларусаў, другой рукой улада змяншае паступленні ў бюджэт. На гэтым тыдні Мінгандаль на 90 дзён спыніў працу 177 крамаў «Дабраном», якія, як сцвярджаюць эксперты, падкантрольныя «Еўрагандлю» (сетка «Еўраопт»). Крамы будуць зачыненыя з 21 ліпеня 2015 года.

Закрыццё гэтых крамаў у Мінгандлі тлумачаць тым, што ЗАТ «Дабраном» несвоечасова разлічвалася з пастаўшчыкамі за пастаўленую прадукцыю. Запазычанасць арганізацыі за пастаўленыя тавары, у тым ліку мяса, малако і хлеб, склала звыш 30 млрд. рублёў.

З-за гэтага Мінгандаль вырашыў спыніць працу, а значыць, і выплаты падаткаў у бюджэт, 177 крамаў. Цікава, ці не перавысяць страты падаткаў суму запазычанасці? Там увогуле, у Мінгандлі, хто-небудзь думае пра дзяржаўны бюджэт і інвестыцыйную прывабнасць Беларусі?

Канешне, з такімі метадамі працы інвестары ў краіну не заявяцца. Больш за тое, збягуць тыя, што ўжо былі. І ўжо пачынаюць бегчы. Некаторыя — у літаральным сэнсе гэтага слова.

У інтэрнэце на тыдні з'явіўся цікавы загаловак: «Больш за 200 чалавек збіраюцца бегчы праз мяжу з Гродна ў Друскінінкай». Адразу ўзнікла думка, што на беларускай мяжы сабраўся натоўп нелегалаў, альбо што нашы грамадзяне масава шукаюць шчасця ў суседняй ЕСаўскай Літве. Але тэкст быў больш аптымістычны.

Ад Гродна да Друскенікаў акурат 42 кіламетры, а гэта — марафонская дыстанцыя. У нядзелю, 19 ліпеня, і ладзіцца такі забег. На пачатак месяца зарэгістравалася 234 спартсмены з 14 краін. Міжнародны марафон стартуе ў 8.00 ад Лядовага палаца ў Гродна, а скончыцца на цэнтральнай плошчы Друскінінкая. На мяжы бегуноў ніхто не спыняе — пашпартны кантроль яны праходзяць яшчэ да старту.

Першыя шэсць чалавек у абсалютным першынстве сярод мужчын і жанчын атрымаюць грашовыя прызы. А каб ім давалі літоўскае грамадзянства, магчыма, марафонцаў было б разы больш.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Сяргей Андросенка

**Вядомаму ЛГБТ-актывісту, арганізатару мінскіх гей-прайдаў, кіраўніку праваабарончага праекта «ГейБеларусь» адмовілі ў палітычным прытулку ў Швецыі.**



Андросенка з'ехаў з Беларусі ў чэрвені 2013 года з-за пераследу з боку міліцыі. Некаторы час ЛГБТ-актывіст пражыў у Малдове, Сербіі, Польшчы і Літве. Калі стала зразумела, што сітуацыя для вяртання актывіста не палепшылася і рызыка пераследу застаецца, Андросенка разам са сваім партнёрам вырашылі папрасіць палітычны прытулак у Швецыі.

Шведскія міграцыйныя ўлады прызналі, што Андросенка з'яўляецца вядомым беларускім ЛГБТ-праваабаронцам, які неаднаразова станавіўся ахвярай пераследу, дыскрымінацыі, псіхалагічнага ціску і фізічнага гвалту. Але адмовілі ў прадастаўленні палітычнага прытулку. Чыноўнікі палічылі, што Андросенка пры несправядлівым і негуманным стаўленні на радзіме можа самастойна абараніць свае правы ў беларускіх судах, міліцыі і пракуратуры. Апеляцыйны Міграцыйны суд Швецыі не прыняў да разгляду заяву актывіста. Не дапамаглі і лісты падтрымкі ад шэрагу няўрадавых і праваабарончых арганізацый.

Паўтара гады Андросенка жыве ў Стакгольме. З'яўляецца сябрам рады і сакратаром па Усходняй Еўропе ў ЛГБТ-грамадстве дзеячаў культуры краін Паўночнай Еўропы Tupilak, а таксама актывістам арганізацыі «Беларусы Швецыі».

## Вікторыя Азаранка

**Наша тэнісістка годна пакідае Уімблдон. У матчы 1/4 фіналу яна саступіла ў трох сэтах (6:3, 2:6, 3:6) Серэне Уільямс, якую называюць «каралевай корту».**



Гэта была дваццатая вочная сустрэча Азаранкі і Уільямс-малодшай. Лік стаў 17:3 на карысць амерыканкі. У тым ліку Серэна выйграла ўсе тры матчы ў гэтым сезоне.

Але якая гэта была сустрэча! Матч Азаранкі — Уільямс адразу пачаў дарыць гледачам тэніс экстракласу. «Ні ў каго не павінна ўзнікаць сумневаў, які матч лічыць датэрміновым фіналам», — напісаў пра гэтую сустрэчу «Прессбол». Серэна цалкам уяўляла, хто ёй супрацьстаіць і што гэта будзе. І тым не менш лётала па розных кутках і спазнялася, не ў сілах знайсці годныя адказы выверанымі дзеянням Вікі. Гульня Азаранка ўяўляла сабой ідэальны баланс моцы і гнуткасці, рызыкі і надзейнасці. Дапусціўшы дзве падвойныя памылкі ў першым жа гейме, наша тэнісістка не засмуцілася, а працягнула лінію ўдараў на мяжы. Але ў другім сэце гэтая выдатная канцэпцыя рассыпалася. Перш за ўсё таму, што дадала сама Уільямс-малодшая. Серэна ўсе сілы кінула на тое, каб адабраць у Вікторыі падачу пры ліку 2:1. Гэта быў самы працяглы гейм у гульні. І Вікторыя выстаяла! З абароны пераходзіла ў атаку, а да сілы дадавала хітрасць.

Але працягваць у такім духу Азаранка не змагла.

## Дар'я Домрачава

**Беларуская біятланістка падхапіла монануклеёз.**



Пра гэта Дар'я паведаміла ў сваім акаўнце ў «Інстаграм» і перадала прывітанне фанатам, а таксама папрасіла не перажываць за яе, бо востры перыяд хваробы ўжо прайшоў.

Монануклеёз — небяспечная хвароба, якая моцна б'е па імунітэту. На працягу 1–1,5 месяца з-за рызыкі разрыву селязёнкі рэкамендуецца абмежаваць фізічныя нагрузкі.

Варта зазначыць, што адначасова з Дашай захварэў і Оле-Эйнар Б'ёрндален. Нарвежскаму біятланісту прыйшлося прапусціць некалькі тыдняў трэніровак.

Чуткі пра раман Домрачавай і Б'ёрндалена распаўсюджваюцца ўжо некалькі гадоў. Дваіх славутых спартоўцаў у апошні час нярэдка бачаць разам у публічных месцах.

а | Азбука паліталогіі

# Людзі на камянях і людзі на балоце



Сяргей НІКАЛЮК

**Заявы пра «ворагаў народа» ў асяродку апазіцыі даўно ўжо нікога не здзіўляюць. Навіна ліпеня — магчымая прысутнасць шкоднікаў ва ўрадзе.**

Мая пляменніца жыве ў Японіі. У яе двое дзяцей. Малодшая скончыла пачатковую школу, але пераход у сярэднюю — гэта галаўны боль для бацькоў. Зразумела, гаворка ідзе пра бацькоў, неабыякавых да будучыні сваіх дзяцей. А такіх бацькоў у Японіі большасць.

Праілюструю сказанае фрагментам перапіскі з пляменніцай па скайпе: «Цяпер трэба ўшчыльную заняцца выбарам школы для Надзі. Суцэльныя сходы, адкрытыя і пробныя ўрокі і г.д. і да т.п. Экзамены ўжо ў студзені. А яна пакуль не вызначылася з канкрэтнай школай. Трэба ездзіць, глядзець».

Уяўляеце? «Экзамены ўжо ў студзені»! Час падціскае. Так і праляцець можна. Калі памыліўся з выбарам сярэдняй школы, не здасі ўступныя экзамены, то ў 11 гадоў можна будзе ставіць крыж на будучай кар'еры дзіцяці. Японія — не Амерыка, у якой вучыцца ніколі не позна. Сястра маёй першай жонкі, напрыклад, скончыла Гарвард у 50 гадоў, а мая старэйшая дачка сумясціла святкаванне свайго 40-годдзя з атрыманнем дыплома магістра ўніверсітэта штата Дэлавер.

За ўсё ў гэтым жыцці даводзіцца плаціць. Сярод эканамічна развітых краін Японія з'яўляецца адным з лідараў па колькасці самагубстваў на 100 тысяч чалавек — 18,5 у 2012 годзе. Але інакш трэціюэканоміку свету на камяністых выспах, пазбаўленых карысных выкапняў, не пабудаваць.

## У 150 разоў вышэй

Японскі вопыт — не ўнікальны. Рэкамендую чытачам НЧ паглядзець артыкул карэязнаўцы, прафесара ўніверсітэта Кукмін (Сеул) Андрэя Ланькова «У Карэі людзі вучацца як праклятыя», размешчаны на polit.ru.

Карэя (зразумела, Паўднёвая Карэя) — класічны прыклад «развіцця, што даганяе». Дзесяцігоддзямі яна развівалася за кошт запазычання заходніх тэхналогій. Пытанне пра ўласныя навуковыя распрацоўкі пры гэтым было не актуальным. Але рост узроўню жыцця (сярэдняя зарплата па Сеулу цяпер каля 2–2,5 тысяч долараў) панізіў яе канкурэнтаздольнасць адносна Кітая. Вось і давялося ўраду «штурхаць нагамі» прафесараў, каб яны займаліся навукай.

Вынік «штуршкоў» фіксуюць, у прыватнасці, справаздачы Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці. У 2013 годзе Карэя падала 11,2 тысячы заявак па працэдуры PCT (дагавор аб патэнтнай кааперацыі), Беларусь — 15. З дапамогай калькулятара нескладана падлічыць, што ў разліку на 100 тысяч жыхароў эфектыўнасць карэйскіх навукоўцаў у 2013 годзе апынулася ў 150 разоў вышэй, чым беларускіх калег.

Такая праўда жыцця. Заклікамі і лозунгамі яе не выправіць. Але і таго, і іншага ў Беларусі хапае. Дастаткова звярнуцца да выступлення адзінага палітыка (АП) на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню Незалежнасці: «Будучыня — за навукаёмістымі галінамі. <…> Не аспрэчваючы важнасць інвестыцый у вытворчасць, хачу падкрэсліць, што найважнейшым для нас з'яўляецца інтэлектуальны рэсурс. Менавіта ён ляжыць у аснове новай эканомікі. Не выпадкова мы плануем звязаць развіццё яе сектараў і галін з прыкладнымі і фундаментальнымі даследаваннямі, дзяржаўнымі навукова-тэхнічнымі праграмамі».

Пакуль у Беларусі ўлада сваю энергію выдаткоўвае на лозунгі, у Карэі фармуецца культ адукацыі з апорай на традыцыі. У краінах канфуцыянскай сістэмы менавіта адукацыя была важным маркерам сацыяльнага поспеху. Тысячагоддзямі ўдасканальвалася сістэма экзаменаў, якая забяспечвае прасоўванне чыноўнікаў па кар'ернай лесвіцы.

Але вернемся ў сучаснасць. «Карэйскі падлетак ведае, — падкрэслівае Ланько, — што ўвесь яго лёс больш-менш будзе вызначацца тым, наколькі добра ён будзе вучыцца ў школе. Разважанні накшталт: «Вядома, я — разгільдзяй, але я вельмі добра гуляю ў баскетбол, і таму мяне прымуць у любую ВНУ» або «Я — круты, усім даю па мордзе, потым пайду ў банды», — зусім не практыкуюцца».

## Ад лацінскага «redistributio» — «пераразмяркоўваць»

Згодна з амерыканскім эканамістам Джонам Гелбрайтам, існуюць тры базавыя спосабы прымусу чалавека да пэўных паводзінаў: ідэальнае і матэрыяльнае ўзнагароджанне і пакаранне. У залежнасці ад перавагі таго ці іншага спосабу ўсе культуры можна падзяліць на рэпрэсіўныя і культуры заахвочвання. Прапаную чытачам самастойна вызначыць, да якой з іх належыць беларуская культура.

Вышэй ужо адзначалася, што ўраду Карэі давялося «штурхаць нагамі» сваіх прафесараў. Самым эфектыўным «штуршком» апынулася аплата і прасоўванне па кар'ернай лесвіцы ў залежнасці ад колькасці публікацый у рэйтынгавых навуковых часопісах, пераважна — замежных. Прыярытэт замежных часопісаў над карэйскімі дазволіў звесці да мінімуму прынцып «ты мне — я табе». У краіне з векавымі традыцыямі персанальных сувязяў апошняе патрабаванне адыграла вырашальную ролю.




Чым і як «штурхаюць» беларускіх вучоных, мне не вядома. Але ўрадаўцам і дырэктарам прадпрыемстваў не пазайздросціш. Зноў працытую выступ АП на ўрачыстым сходзе 2 ліпеня: «Напярэдадні свята быў прыняты шэраг рашэнняў наконт вываду прадпрыемстваў з крызісу. І адразу папярэджваю і ўрад, і кіраўніцтва гэтых прадпрыемстваў: калі запланаванае на гэтую падтрымку не будзе выканана, гэта будзе разглядацца як **шкодніцтва**».

Пра якія рашэнні ідзе гаворка? У першую чаргу, пра «выпрацоўку новых механізмаў падтрымкі». Распрацоўка і ўкараненне такіх механізмаў у Беларусі пастаўлены на канвеер. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова перыядычна праглядаць стужкі навін: «Дзяржава выкупіць у беларускіх банкаў так званыя актывы прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі з іх наступнай перадачай на баланс Банка развіцця». «Кіраўнік дзяржавы падпісаў шэраг указаў аб стабілізацыі фінансавага становішча буйных прамысловых прадпрыемстваў краіны»...

Для разумення прыроды такіх навінаў мне давядзецца звярнуцца да паняцця «рэдыстрыбуцыя» (ад лац. «redistributio» — «пераразмяркоўваць»). У самым агульным выглядзе рэдыстрыбуцыю можна вызначыць як збіранне разам большай ці меншай часткі прадукту, часцей за ўсё яго канцэнтрацыю ў руках кіраўніка групы, з наступным размеркаваннем.

Гістарычна першасныя формы дзяржаўнасці грунтаваліся менавіта на рэдыстрыбуцыі. У цэнтры самых старажытных гарадоў археолагі пры раскопках знаходзяць, як правіла, рэшткі храма, які выконваў адначасова і функцыю грамадскага складу. Цэнтралізаванае пераразмеркаванне рэсурсаў патрабавала саслоўнай структуры грамадства. Вылучу два асноўных саслоя — бяспраўныя вытворцы і размеркавальнікі выгод (носьбіты функцыі кіравання і правоў распараджэння маёмасцю).

Такія сацыяльныя сістэмы характарызаваліся высокім узроўнем гвалту. Вось як гэта тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка: «Усталяваўшы аднойчы апісаны парадак рэчаў, дзяржава павінна была прымусіць чалавека, па-першае, пакорліва здавольвацца выдзеленай пайкай, і, па-другое, працаваць добрасумленна, па-за якой бы там ні было эканамічнай зацікаўленасцю ў выніках сваёй працы. У стратэгічным плане гэтыя задачы прынцыпова не выканальныя. На ўзроўні тактычным іх можна неяк вырашаць, абапіраючыся на пастаянны кантроль і рэпрэсіі».

## Прыгожа? Прыгожа!

Але не варта наіўна меркаваць, што «гістарычна першасныя формы дзяржаўнасці» засталіся ў далёкім мінулым. Савецкі Саюз з яго Дзяржпланам і Дзяржснабам — класічны прыклад дыстрыбутыўнай дзяржавы. Адначасова Савецкі Саюз — класічны прыклад рэпрэсіўнай дзяржавы.

Усё лагічна, бо адно без другога «не ходзіць». Аб'ектыўны сэнс савецкага этапу гісторыі — фарміраванне з архаічнага селяніна чалавека масавага грамадства, здольнага адгукацца на мабілізацыйныя заклікі партыі. Нагадаю, у 1913 годзе ў гарадах пражывала толькі 16% насельніцтва імперыі.

«Найвялікшая катастрофа XX стагоддзя» дыстрыбутыўную прыроду арганізацыі жыцця не адмяніла. Такім чынам, панейшаму застаецца актуальнай патрэба ў рэпрэсіях. Колькасць «людзей у пагонах» у сучаснай Беларусі з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай. Аднак у інтэрнэце я без асаблівай складанасці адшукаў, што «ў Беларускім фізкультурна-спартыўным таварыстве «Дынама» налічваецца 498 калектываў фізічнай культуры, якія аб'ядноўваюць звыш 83,5 тысячы «дынамаўцаў» — супрацоўнікаў і ваенных органаў правапарадку і бяспекі».

Зразумела, беларуская мадэль не з'яўляецца стоадсоткава дыстрыбутыўнай, як не з'яўлялася такой і савецкая мадэль. Не варта забываць пра так званую ценявую эканоміку, якая складала пад канец 80-х гадоў каля 20% ад афіцыйнага ВУП.

«Галоўнае пытанне — гэта эканоміка, функцыянаванне эканамічнай сістэмы дзяржавы». Такі лозунг дня. Праблемы, з якімі сёння сутыкнулася беларуская мадэль, на вяршыні ўладной «вертыкалі» ўяўляюцца выключна эканамічнымі. У сувязі з прасяданнем расійскага рынку вырашаць іх мяркуецца за кошт збалансаванай геаграфіі экспарту: «Траціна прадукцыі павінна адпраўляцца на рынкі Еўразійскага эканамічнага саюза, траціна — у краіны Еўрасаюза, яшчэ траціна — у краіны «далёкай дугі».

Прыгожа? Прыгожа! Таму што сіметрычна. Але які шанец у беларускай прадукцыі замацавацца на міжнародных рынках? АП упэўнены, што «канкурэнтаздольнасць прадпрыемстваў вызначаецца эфектыўнасцю кіравання гэтымі прадпрыемствамі». У сваю чаргу, эфектыўнасць кіравання залежыць ад умення кіраўнікоў разглядаць нядбайных падначаленых як шкоднікаў. Прынамсі, я так зразумеў, чытаючы і перачытваючы выступы АП.

Японцы, як гэта вынікае з перапіскі з пляменніцай, праблему канкурэнцыі на знешніх рынках вырашаюць за кошт арганізацыі канкурэнцыі ўнутранай. І жыць у рэжыме ўнутранай канкурэнцыі абавязаныя ўсе: ад школьнікаў да палітыкаў нацыянальнага ўзроўню.

Там, дзе ёсць рэальная канкурэнцыя, там ёсць і тыя, хто прайграе. 18,5 суіцыдаў на 100 тысяч жыхароў таму пацверджанне. Але Беларусь з паказчыкам 18,3 ідзе следам за Японіяй. Каля 60% самагубстваў здзяйсняюцца ў «краіне пад белымі крыламі» ў стане алкагольнага ап'янення.

# За пацука адкажаш!

Сяргей ПУЛЬША

**Грамадскія актывісты вырашылі адабраць хлеб у КДБ. У краіне стартавала грамадзянская кампанія па супрацьдзеянні тэрарыстычнай пагрозе. Прычым, пад тэрарыстычнай пагрозай разумеюцца заявы хоць былога, але кіраўніцтва КДБ.**

Новую ініцыятыву 7 ліпеня прэзентавалі так званыя «недалучэнцы» — тыя, хто на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах не будзе падтрымліваць ніводнага кандыдата. Гэтая ініцыятыва даволі незвычайная — яна мае на мэце калі не забяспечыць, то падтрымаць грамадзянаў, якія маюць права на мірны пратэст. Ініцыятары стварэння партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», прафсаюз РЭП і Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада абвясцілі пра пачатак грамадзянскай кампаніі пад умоўным лозунгам «Беларусь без тэрарызму».



**Станіслаў Шушкевіч удзелу ў прэс-канферэнцыі не ўзяў, але сваёй прысутнасцю пацвердзіў удзел БСДГ у ініцыятыве**

Старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч, абвяшчаючы пра новую кампанію, згадаў выбары 2010 года. Пасля той кампаніі ў краіне адбыліся масавыя ператрусы ў офісах зарэгістраваных і незарэгістраваных ініцыятываў, усяго 168 штук. У шматлікіх актывістаў была вынята тэхніка, пашкоджаныя кампутары, гэты ж лёс напаткаў і офіс РЭП, дзе праходзіла прэс-канферэнцыя. Каб не было паўтору 2010 года, і ствараецца новая ініцыятыва.

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД Віталь Рымашэўскі зазначыў, што ў час гэтай прэзідэнцкай кампаніі асноўныя інсінуацыі і спекуляцыі звязаныя з магчымым выхадам беларусаў на пратэстныя акцыі. «Многія



**Віталь Рымашэўскі: «Прыйшоў час адказаць за пацукоў у водаправодзе»**

палітыкі ўжо паспяшаліся ад гэтага адхрысціцца, і ледзьве не абвесціць усіх тых, хто будзе ўдзельнічаць у акцыях пратэсту, здраднікамі, правакатарамі і гэтак далей», — зазначыў ён.

Між тым, па словах Рымашэўскага, на выбарах 2006 года і 2010-га «нагнятанне атмасферы варожасці рабілася, у асноўным, з боку ўлады». «Ва ўладзе знаходзіліся людзі, досыць высокапастаўленыя асобы, якія заяўлялі аб тым, што рыхтуюцца тэракты, гвалтоўнае звяржэнне ўлады, а пасля іх заявы, зробленыя ў прысутнасці журналістаў, не знайшлі ніякага дакументальнага пацверджання», — заявіў адзін з лідараў БХД.

Як лічыць Рымашэўскі, «прыйшоў час адказаць за пацукоў у водаправодзе». Нагадаем, што падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 года тадышні старшыня КДБ Сцяпан Сухарэнка заяўляў, што дэманстранты планавалі атруціць водаправод Мінска, скідваючы туды памерлых пацукоў. «Прыйшоў час адказаць за зброю і выбухоўку, якія нібыта знаходзілі ў гаражах у 2010 годзе», — дадаў хрысціянскі дэмакрат.

Зараз, паведаміў Рымашэўскі, ужо гатовыя запыты як у пракуратуру, так і ў іншыя зацікаўленыя дзяржаўныя органы, пра тое, ці знайшлі гэтыя шырока агучаныя «факты» сваё пацверджанне. Калі знайшлі, дык хто быў адказны за падрыхтоўку тэрактаў? Ці былі заведзеныя крымінальныя справы, чым яны скончыліся, ці ёсць пакараныя за гэтыя дзеянні?

«Калі гэта былі беспадстаўныя заявы пра падрыхтоўку тэрарыстычных актаў, калі пацверджання гэтым фактам не знойдзецца, мы будзем настойваць і дамагацца прыцягнення да крымінальнай адказнасці тых людзей, якія гэтыя заявы рабілі», — заявіў Рымашэўскі. Па ягоным меркаванні, такія публічныя заявы пра падрыхтоўку тэрактаў з боку апазіцыі падпадаюць пад як мінімум два артыкулы Крымінальнага кодэкса краіны — артыкул 400 КК «Заведама хлуслівы данос», і арт. 424 КК «Злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі».

Патрабаваць адказнасці «за базар» будуць не толькі ў службовых асобаў і высокіх чыноўнікаў. Стваральнікі мастацка-прапагандысцкіх фільмаў кшталту «Жалезам па шклу», стваральнікі «тэрарыстычных» сюжэтаў на тэлебачанні таксама будуць разглядацца як патэнцыйныя кандыдаты на крымінальную адказнасць.




Па меркаванні ініцыятараў кампаніі, гэтыя дзеянні ў адносінах да былых заяваў і іх заяўнікаў дазволяць прадухіліць аналагічныя правакацыі і заявы ў бок апазіцыі на сёлетніх выбарах. Тых жа, хто будзе рабіць такія заявы і ў часе гэтай выбарчай кампаніі, магчыма, чакае позва ў суд за паклёп. «Прайшло чатыры гады, новая выбарчая кампанія, і мы бачым, што пачынаецца тое ж самае, новыя заявы пра дэстабілізацыю ў краіне і гэтак далей», — кажа Рымашэўскі.

Калі гэтую хвалю «дэстабілізацыі ў галовах» не спыніць, то, лічыць Рымашэўскі, кепска будзе ўсім. «Было пытанне, хто ідзе на выбары, хто не ідзе на выбары, — гэта не важна. Як паказвае практыка, незалежна ад таго, хто ідзе на выбары, хто не ідзе на выбары, пад рэпрэсіі трапляюць усе. І тыя арганізацыі, якія не вылучалі сваіх кандыдатаў, як прафсаюз РЭП на мінулых выбарах — тут было некалькі ператрусаў, — і шараговыя грамадзяне, якія выходзяць падтрымаць таго ці іншага кандыдата, а потым страчваюць працу і гэтак далей. Наша задача — ужо зараз паспрабаваць прадухіліць тыя пагрозы, якія могуць паўта-



**Павал Севярынец: «У Беларусі ёсць сапраўды тэрарыстычныя арганізацыі»**



**Генадзь Фядыніч: «Нам не трэба паўтору 2010 года»**

рыцца з 2010 альбо 2006 года», — заявіў Рымашэўскі.

Але не толькі прыцягненнем да адказнасці «былых» зоймецца новая ініцыятыва. Па словах яшчэ аднаго заснавальніка БХД, Паўла Севярынца, у краіне існуе і больш рэальная пагроза тэрарызму. «Гэта расійская прапаганда, якая пашыраецца ў Беларусі, і стварэнне ў шэрагу выпадкаў датычных да тэрарызму арганізацыяў, у тым ліку ваенізаваных і паўваенных», — зазначыў Севярынец.

Паводле ягонай інфармацыі, за апошнія паўтара гады ў краіне створана сетка з дзясяткаў арганізацыяў, якія сваёю мэтаю ставяць альбо прапаганду, альбо акупацыю і захоп Беларусі, знішчэнне беларускай дзяржаўнасці. «Пра гэта адкрыта заяўляецца ў сродках масавай інфармацыі, мерапрыемствы такіх арганізацый праводзяцца ў Беларусі ў шэрагу выпадкаў пад дахам гарвыканкамаў, райвыканкамаў альбо нават з дазволу вышэйшай дзяржаўнай улады ў Беларусі», — сказаў Севярынец.

«У Беларусі ажыццяўляецца вярбоўка грамадзянаў Беларусі для ўдзелу ў канфлікце ў Данбасе на баку сепаратыстаў, у Беларусі ажыццяўляецца дзейнасць такіх, на наш погляд, адкрыта тэрарыстычных арганізацый, як РНЕ, розных арганізацый, якія знаходзяцца «пад парасонам» «Рассупрацоўніцтва», і дзейнасць інфармацыйных парталаў, якія адкрыта заклікаюць да знішчэння Беларусі як незалежнай дзяржавы», — заявіў Севярынец.

Больш небяспечнае, па ягоных словах, тое, што разам з гэтым у трэніроўкі, вайсковыя вышкалы з адпаведнай «прамыўкай мазгоў» ідзе ўцягванне непаўнагадовых. «Безумоўна, гэтыя дзеянні падпадаюць як пад беларускі крымінальны кодэкс, так і пад міжнароднае заканадаўства аб супрацьдзеянні тэрарызму», — лічыць Павал.

У сувязі з гэтым новая ініцыятыва звяртаецца да грамадзянаў з просьбай фіксаваць такія выпадкі, звязвацца з арганізатарамі. «Гэта патрэбна, па-першае, каб усе ведалі пра такія факты, па-другое, каб бацькі непаўнагадовых маглі стрымаць дзяцей ад удзелу ў такіх арганізацыях, і па-трэцяе, каб дзяржаўныя органы нарэшце вызначыліся, з кім яны. Яны падтрымліваюць расійскую агрэсію на постсавецкай прасторы, якая можа абярнуцца стратай незалежнасці Беларусі, альбо яны ўсё ж такі будуць абараняць — паводле закону — незалежнасць Беларусі», — сказаў Севярынец.

Праўда, канкрэтных фактаў і доказаў ён не прывёў, як кажуць, «у мэтах інтрыгі». Адпаведныя факты і інфармацыя, паабяцаў Севярынец, з'явіцца літаральна днямі.

Так што пагроза тэрарызму ў Беларусі зыходзіць як звонку, так і знутры. Рымашэўскі звярнуў увагу, што датычнымі да тэрарызму могуць быць не толькі нейкія незарэгістраваныя ініцыятывы і аб'яднанні, але і дзяржслужачыя, супрацоўнікі сілавых структураў, і нават цэлыя дзяржаўныя ўстановы. «Як гэта адбылося на Усходзе Украіны, дзе незаконныя бандфарміраванні разам з высокапастаўленымі асобамі розных дзяржаўных службаў Украіны справакавалі ўзброены канфлікт і, па-сутнасці, аддзяленне часткі тэрыторыі гэтай дзяржавы», — нагадаў Рымашэўскі.

Хутка мы даведаемся, ад каго ўсё ж такі рэальна сыходзіць тэрарыстычная пагроза ў краіне. І, так, за пацука ў водаправодзе, пэўна, усё ж прыйдзецца адказаць.

# Грошай не будзе:
## Беларусь не атрымала крэдыт

Генадзь КЕСНЕР

**Беларусь вельмі разлічвала на новы крэдыт ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР) — так цяпер завецца былы Антыкрызісны фонд (АКФ) Еўразійскага эканамічнага саюза. Аднак дарэмна. Калі грошы ад гэтай структуры могуць прыйсці ў нашу краіну, сказаць не адважваюцца нават спецыялісты.**



Заяўка Беларусі на гэты крэдыт разглядалася 3 лістапада ў Маскве. Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што афіцыйныя СМІ адпаведную інфармацыю праігнаравалі. Бо ганарыцца няма чым. Па выніках пасяджэння савета ЕФСР стала вядома, што пытанне выдзялення сродкаў Беларусі падвесілі, хоць запыты іншых дзяржаваў былі задаволены. Так, Арменія атрымае 40 мільёнаў долараў, а Кыргызстан — 100 мільёнаў. А вось што тычыцца нас, то тут прынята рашэнне «працягнуць работу па падрыхтоўцы заключэння па дадзеным пытанні». Што гэта азначае, сказаць цяжка.

Заяўку на атрыманне крэдыту ад ЕФСР афіцыйны Мінск падаў яшчэ ў сакавіку бягучага года, а ўжо ў маі прайшлі перамовы эканамістаў праектнай групы фонду з высокімі чыноўнікамі Беларусі адносна новай крэдытнай праграмы. Кіраўніцтва Еўразійскага банка развіцця, які распараджаецца сродкамі фонду, абяцала, што беларуская заяўка на грошы мае быць разгледжана да канца першага паўгоддзя. Тым не менш, Беларусь грошай так і не атрымала.

На думку былога кіраўніка Нацбанка Беларусі доктара эканамічных навук прафесара Станіслава Багданкевіча, гэта адбылося таму, што наша краіна не выканала абумоўленыя раней дамоўленасці адносна папярэдняга крэдыту АКФ. «Нават апошні, шосты, транш у 400 мільёнаў долараў гэтага крэдыту мы не атрымалі, таму што не выканалі мерапрыемствы ў плане інфляцыі, прыватызацыі і рэформаў. Дарэчы, ЕФСР заняў пазіцыю, аналагічную з пазіцыяй Міжнароднага валютнага фонду (МВФ), зрабіўшы выснову, што рэформы ў Беларусі ўсё ж неабходныя. А вось Аляксандр Лукашэнка перакананы, што тутэйшая мадэль — найлепшая ў свеце, таму ніякія рэформа ўвогуле не патрэбныя», — адзначае экс-банкір.

У сваю чаргу, старшы аналітык кампаніі «Альпары» Вадзім Іасуб лічыць, што прычынаю адмовы ў прадастаўленні сродкаў стала неканчатковае ўзгадненне эканамічных умоваў прадастаўлення гэтага крэдыту. «Хаця не выключана, што тут могуць мець месца нейкія няяўныя патрабаванні з боку Расіі. Пакуль бакі не дасягнулі пагаднення, таму і маем мы беларускую заяўку на крэдыт у падвешаным стане», — кажа суразмоўца.

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі звяртае ўвагу на тую акалічнасць, што ў ЕФСР дамінуе Расія. Беларускія ж улады яшчэ некалькі гадоў таму абяцалі «цесную інтэграцыю» некаторых сваіх прадпрыемстваў з расійскімі. «Фактычна, кіраўніцтва Беларусі пагаджалася прадаць расіянам пяць буйных прадпрыемстваў — Мінскі завод колавых цягачоў, МАЗ, «Гродна-азот», «Інтэграл» і «Пеленг». Але нічога гэтага дагэтуль не зроблена. Таму адтэрміноўка ў прадастаўленні крэдыту можа быць звязана са спробаю Масквы ўчыніць ціск на беларускае кіраўніцтва дзеля рэалізацыі дамовы аб інтэграцыі гэтых прадпрыемстваў», — не выключае эксперт.

І яшчэ адно пытанне — якім можа быць запытаны ў ЕФСР Беларуссю крэдыт. Вадзім Іосуб не выключае, што памер сродкаў мае быць не менш таго, што афіцыйны Мінск можа чакаць ад Міжнароднага валютнага фонду, а гэта ў раёне 3 мільярдаў долараў. «Але трэба прасіць як мага больш, па максімуму, хоць беларускі бок будзе рады атрымаць любую суму», — мяркуе фінансавы аналітык. Тут варта прыгадаць словы міністра фінансаў Уладзіміра Амарына, які адказаў на пытанне пра меркаваны памер крэдыту наступным чынам: калі атрымаем, тады і ўбачым, якога памеру будзе гэты крэдыт.

У сваю чаргу, Станіслаў Багданкевіч падкрэслівае, што крэдыт нам вельмі неабходны. Але новыя займанні — не панацэя. «Трэба падымаць заснулую мярцвяцкім сном эканоміку. Рабочыя не працуюць, маркетолагі і кіраўнікі адпачываюць, замест таго, каб дзень і ноч шукаць шляхі выхаду з крызісу, шляхі зніжэння сабекошту, меры па інавацыях і гэтак далей. Усе чакаюць, што ў Расіі пачнецца ажыўленне эканомікі, і яна пачне плаціць», — адзначае эканаміст.

Але і на Міжнародны валютны фонд Беларусі разлічваць не трэба, кажа ён. «Найбліжэйшым часам МВФ крэдыты нам не дасць, бо беларускія ўлады занадта запусцілі эканоміку. І нават калі МВФ будзе даваць нейкія сродкі, то толькі малымі дозамі і пад канкрэтныя рэформы, бо фонд ужо мае адмоўны досвед дачыненняў з Беларуссю», — падкрэслівае былы старшыня праўлення Нацыянальнага банка.

Але бяда ў тым, што самы высокі беларускі чыноўнік, ад якога залежыць усё ў нашай дзяржаве, насамрэч перакананы, што тутэйшая мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця з'яўляецца ледзь не самай лепшай у свеце. І яшчэ праблема ў тым, што нават тыя сродкі, якія Беларусь атрымлівае з замежжа, не ідуць на інавацыі і рэформы, а на пагашэнне ранейшых крэдытаў і на праяданне. Сёлета, нават у год прэзідэнцкіх выбараў, сітуацыя склалася такая, што ўлада не мае больш рэсурсаў, каб падкарміць электарат. Колькі гатовы трываць насельніцтва паспаліты люд? Добрае пытанне. Але пакуль без адказу.

# Дзе знайсці ўлетку працу?

Павел АКСІНОВІЧ

**Скончыўся чэрвень — з ім сесія і здача ЦТ. Можна і працу пашукаць на лета ці больш. Мы пацікавіліся ў выпускнікоў і студэнтаў, як і дзе яны шукаюць падпрацоўку, каб зарабіць грошы на адпачынак або навучанне.**

**Аляксей, выпускнік Мінскага дзяржаўнага вышэйшага радыётэхнічнага каледжу:**



— Працую тэхнікам-праграмістам у Інстытуце прыкладных праграмных сістэм. Пачаў працаваць на 4-м курсе, калі мяне ўзялі на тэхналагічную і пераддыпломную практыку. Пасля мне прапанавалі застацца ў іх. Я вырашыў: гэта выдатны спосаб атрымаць досвед у вялікай кампаніі, ды сама праца спадабалася мне. Гэта прафесія адпавядае маёй спецыяльнасці. Сумяшчаць з навучаннем было складана, але магчыма. Калі была практыка, то свабодна працаваў на поўную стаўку. Не так і проста знайсці студэнту нават падпрацоўку: не бяруць без досведу і сувязей, нават калі ты вельмі разумны. Але я лічу: хто шукае, той знойдзе.

**Лізавета, студэнтка філалагічнага факультэту БДУ:**



— Зараз я працую памочнікам адміністратара ў салоне карэкцыі фігуры — пяць дзён на тыдзень па 3–5 гадзін. Праца нескладаная, паспяваю вучыцца ва ўніверсітэце, улетку — хадзіць у аўташколу. Але, вядома, мне асабіста мала ад яе карысці (акрамя відавочнай — грошай). Месца доўга не шукала, але было даволі складана знайсці, каб графік працы стасаваўся з вучобай. Я магла б працаваць рэпетытарам ці нават журналістам, але гэта не так цікава. Вось мая папярэдняя праца — гэта была проста мара, песня песняў і салодкі торт. Я працавала крыху больш за год у выдавецтве «Галіяфы» прадаўцом кніг — спачатку на кніжным кірмашы, потым ва ўласнай кнігарні. Вось гэта было самае яно! Я вучуся на філолага, а тут кніжкі, сучасная беларуская літаратура, цікавыя пакупнікі. Наш калектыў увогуле не ведаю, з чым параўнаць, хіба з серыялам «Blackbooks». Гэта было вельмі цікава, вельмі весела. Але кнігарню, як вядома, напаткаў сумны лёс.

**Дзяніс, выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР):**



— Сёлета скончыў універсітэт. Але пачаў працаваць на 3-м курсе, паколькі аплачваў навучанне сам. Спачатку я запраўляў картрыджы для прынтараў. Графік быў свабодны. Потым працаваў у «Энергазбыце» кантралёрам: здымаў паказанні лічыльнікаў у кватэрах. На апошніх курсах уладкаваўся праз сябра мерчандайзерам у кампанію «Аліварыя», там рэдка месцы пустуюць. Сутнасць працы — выстаўляць на паліцы піва паводле стандартаў кампаніі, сачыць за наяўнасцю ўсіх цэннікаў і іх актуальнай цаной, а таксама за працаздольнасцю абсталявання і яго чысцінёй. Цяпер жа адпрацоўваю апошні месяц у «Аліварыі» і ўладкоўваюся ў кампанію «АГАТ», дзе паспяхова прайшоў сумоўе.

**Іван, выпускнік сярэдняй школы:**



— Я вырашыў пасля сканчэння школы паступаць на завочнае аддзяленне, каб сумяшчаць працу і вучобу, бо для навучання ва ўніверсітэце неабходны грошы. Я сам спрабаваў шукаць працу праз інтэрнэт, але беспаспяхова. Знайсці самому працу без дыплому і досведу даволі складана. Вось цяпер звярнуўся да знаёмых, яны ўладкавалі ў лагістычны цэнтр грузчыкам. У фізічным плане яна цяжкая, але як падпрацоўка на лета сыдзе, мабыць, і пасля застануся там працаваць.

**Юлія, студэнтка факультэта філасофіі і сацыяльнай навук, спецыяльнасць інфармацыя і камунікацыя**

— Я ўжо гады два задумваюся аб працы: навучанне набліжаецца да канца, а я ўсё яшчэ не знайшла тое, чым хачу займацца па жыцці. Бліжэй да канца 3-га курса я звузіла сферу сваіх інтарэсаў і зразумела, што лепшым варыянтам для мяне будзе праца ў IT сферы. Натуральна, па спецыяльнасці. За вясну гэтага года я адпраўляла сваё рэзюмэ на прыдатныя для мяне вакансіі. З прадстаўнікамі трох з іх мне давялося пагутарыць, але ўсіх патэнцыйных працадаўцаў збянтэжыў той факт, што я яшчэ студэнтка і не змагу працаваць поўны працоўны дзень. Піяр — гэта не коды пісаць дома: там трэба ў офісе з раніцы да вечара. Акрамя гэтага, у маіх супернікаў-кандыдатаў аказваўся большы досвед працы. Аб'ектыўна кажучы, праца для нашай спецыяльнасці ёсць. Хто шукае, той знойдзе. Многія з маіх аднакурснікаў ужо працуюць. Але я не хачу працаваць абы-дзе, хоць разумею, што пачынаць трэба з малога. Менавіта таму пасля ўсёй летаніны з сумоўямі я ўпэўнілася ў тым, што магістратура чакае мяне. Бацькі мяне падтрымалі, але папярэдзілі, што курсы я буду аплачваць сама. Таму я адгукнулася на бліжэйшую да майго дома вакансію — у краму. Мяне ўзялі раскладваць тавары. Я пайшла туды толькі на месяц, бо ў жніўні я паеду педагогам у лагер інтэлектуальнага клубу «Што? Дзе? Калі?».



# TV

## 13 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Меладрама «Каханне - не бульба».
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Карункі».
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.15** Драма «Сляпы разлік».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.50** Драма «Сляпы разлік».
**16.00** 90 секунд.
**17.40** Камедыя «Давай пацалуемся».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Каханне - не бульба».
**21.00** Панарама.
**22.00** «Славянскі базар».
**22.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.15** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыя «Ноч закрытых дзвярэй».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Мастацкі фільм «Рабыня кахання».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Без сведак».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Звароты адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Тры акорды.
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 7». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.45** «Чыстая праца».
**15.35** «Жыццю насуперак».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Атлусценне планеты».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Кіно «Наш чалавек у Гаване».
**00.50** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** Азбука смаку.
**11.10** Анімацыйны фільм «Лаві хвалю» (ЗША).
**12.30** Крымінальны баявік «Моцны арэшак 3: Адплата» ЗША.
**14.40** Крымінальны баявік «Моцны арэшак 4» (ЗША).
**16.50** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «Вялікабрытанія.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.30** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.00** Прэм'ера. Маладзёжна-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія. 1-я серыя.
**00.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «Вялікабрытанія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм шосты «Таямніца залатых апосталаў». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**09.45** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**10.15** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** Мультфільм.
**11.45** Калейдаскоп.
**11.55** «АРТиШОК». Гісторыя вулічнага мастацтва.
**12.20** «Пунсовы Першацвет». Прыгодніцкая драма (Вялікабрытанія, 1982 г.).
**14.40** «Іммануіл Кант. Філасофская сцежка». Дакументальны фільм.
**15.35** «Набярэжная туманаў». Драма (Францыя, 1938 г.).
**17.00** Калейдаскоп.
**17.10** «Грані Перамогі». Узнагароды Перамогі.
**17.40** «Снайпер. Зброя помсты». Ваенная драма. 1-я - 4-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Вечар цяжкага дня» на Славянскім базары.
**21.25** «Каханая». Меладрама (СССР, 1965 г.).
**22.45** «Ён недзе тут.. Успаміны пра Юрыя Марухіна». Дакументальны фільм.
**23.10** «Вечар цяжкага дня» на Славянскім базары.
**23.40** Калейдаскоп.
**23.50** Дзмітрый Смольскі «Сімфанічная музыка».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. ФК Слуцк - Шахцёр (Салігорск).
**09.50** Тэніс. Уімблдон. Адзіночны разрад. Жанчыны. Фінал.
**11.50** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Лос-Анджэлес Гэлэксі - Амерыка.
**13.45** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.50** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Харватыя - Беларусь.
**17.55** Лёгкая атлетыка. Сусветная чэлендж-ліга. Мадрыд.
**20.25** Час футболу.
**21.05** Тэніс. Уімблдон. Фінал. Адзіночны разрад. Мужчыны.
**00.10** Еўрапейскі покерны тур.
**01.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**07.50** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.05** Дамова з Гітлерам, д/ф.
**10.05** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**10.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Бітва пад Клецкам.
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні: Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі.
**11.05** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лідскага замку.
**11.20** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**11.40** Цырк «Каламбія», драма.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**16.45** Маналог. Прыватныя хронікі, д/ф.
**18.20** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Андрэй Курэйчык.
**18.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Вайна з Масковіяй 1512 г.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Якуб Ясінскі.
**19.35** Блокпост «Грозны», рэпартаж.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.25** 54%: Самамамы.
**21.45** Туга па імперыі, д/ф.
**22.40** Цырк «Каламбія», драма.
**00.40** Студыя «Белсат».

## 14 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Камедыя «Ноч закрытых дзвярэй».
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Каханне - не бульба».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Серыял «Дзявочая паляванне».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**16.00** 90 секунд.
**16.30** «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**17.40** Камедыя «Давай пацалуемся».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ураўненне кахання».
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэзідэнцкі спортклуб.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.10** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**00.50** Серыял «Логава змея».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Шматсерыйны фільм «Знайсці мужа ў вялікім горадзе».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Тэлесерыял «Рані».
**00.05** «Мужчынскае / Жаночае».
**00.55** Камедыя «Шведская запалка».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Кіно: «Гадзіна пік -2».
**10.10** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 7». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.45** Серыял «Турысты».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Вайна без правілаў».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Тэрыторыя памылак».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Турысты». Серыял.
**01.00** «Разумней не прыдумаеш».
**01.55** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**10.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.55** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.50** Рэпарцёр.
**13.55** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.45** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «Вялікабрытанія.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.35** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.00** Моладзевыя-камедыйны серыял «Бівер Фолс» Вялікабрытанія. 2-я серыя.
**00.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «Вялікабрытанія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Міміно». Камедыя (СССР, 1977 г.).
**09.40** Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Бронзавая птушка».
**10.10** «Бронзавая птушка». Прыгодніцкі фільм. 1-я серыя (СССР, 1973 г.).
**11.15** «Кінаіндустрыя Краіны Саветаў». Дакументальны фільм.
**12.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча.
**12.35** «Набярэжная туманаў». Драма (Францыя, 1938 г.).
**14.05** Калейдаскоп.
**14.15** «Апошні рыцар імперыі». Дакументальны фільм пра рускага публіцыста, пісьменніка і грамадскага дзеяча Івана Лук'яновіча Саланевіча.
**15.35** «Каханая». Меладрама (СССР, 1965 г.).
**16.55** «Ён недзе тут.. Успаміны пра Юрыя Марухіна». Дакументальны фільм.
**17.20** «Бронзавая птушка». Прыгодніцкі фільм. 1-я серыя (СССР, 1973 г.).
**18.25** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Бронзавая птушка».
**18.55** Мультфільмы.
**19.20** Калейдаскоп.
**19.30** «Трыццаць тры». Іранічная камедыя (СССР, 1965 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Вечар цяжкага дня» на Славянскім базары.
**21.30** «Ракавыя яйкі». Фантастычная камедыя (Расія, 1995 г.).
**23.30** «Вечар цяжкага дня» на Славянскім базары.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча.
**00.20** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15, 07.50** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**08.05** Час футболу.
**08.45** Тэніс. Уімблдон. Парны разрад. Жанчыны. Фінал.
**10.50** Тэніс. Уімблдон. Парны разрад. Мужчыны. Фінал.
**12.55** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.00** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Дынама (Мінск) - ФК Гомель.
**16.50** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Матч за 3-е месца. Беларусь - Іспанія.
**18.30** Спорт-кадр.
**19.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**20.55** Змяшаныя адзінаборствы. ММА. М-1 Global.
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**09.20** Маналог. Прыватныя хронікі, д/ф.
**10.55** Невядомая Беларусь: «Людвіка», дак. фільм.
**11.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Вайна з Масковіяй 1512 г.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**12.00** 54%: Самамамы.
**12.20** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**12.40** Час гонару, серыял.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.15** Беларусь – адзін верш, дак. цыкл: Адам Глобус.
**17.25** Туга па імперыі, д/ф.
**18.20** Пераемнікі, дакументальна-публіцыстычны цыкл: Андрэй Кім.
**18.35** Аўтаспынам па Беларусі.
**18.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Францыск Скарына.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**19.20** Невядомая Беларусь: Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю правы (юрыдычная праграма).
**21.50** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лідскага замку.
**22.00** Я люблю дэмакратыю. Дарожны сшытак, ЗША, д/ф.
**23.00** Глыбокая вада, серыял.
**23.45** Сакрум, д/ф.
**00.20** Студыя «Белсат».

## 17 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Ураўненне кахання».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Меладраматычны серыял «Дзявочая паляванне» (Расія-Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**17.30** Terra incognita.
**18.00** Нашы.
**18.15** Таямніцы следства.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ураўненне кахання».
**21.00** Панарама.
**21.40** Нашы.
**21.55** Камедыйная меладрама «Муж на гадзіну».
**01.10** Навіны.
**01.25** Дзень спорту.
**01.40** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Шматсерыйны фільм «Ветраная жанчына».



**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Злодзеі ў законе».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Практыка».
**23.00** Мастацкі фільм «Белая ноч, пяшчотная ноч..».
**00.50** «Гарадскія піжоны».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Рамэа павінен памерці».
**10.50** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 7». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.45** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Добры дзень доктар!».
**17.25** «Меншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Паміж анёлам і нячысцікам».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**00.25** Вялікая гульня.
**01.10** «Федэральная абарона».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**10.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.20** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.20** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.15** Капейка ў капейку.
**13.45** Я хачу гэта ўбачыць!
**14.40** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.30** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Знішчальнікі. Апошні бой» (Расія-Украіна).
**17.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «Вялікабрытанія.
**18.40** Псіхалагічная драма «Уол Стрыт: Грошы не спяць» ЗША.
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.40** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці-шоў (Украіна).
**23.25** Рэпарцёр.
**00.10** Псіхалагічны трылер «Што хавае хлусня» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабрананак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Брунетка за 30 капеек». Камедыя (СССР, 1991 г.).
**09.30** «Тая, што бяжыць па хвалях». Меладрама (СССР-Балгарыя, 1967 г.).
**11.00** Мультфільмы.
**11.30** «Сіла веры».
**11.55** Калейдаскоп.
**12.05** «Радзіма ці смерць». Ваенная драма (Беларусь, 2006 г.).
**13.30** «У гасцях у Барыса Аверына». Сустрэча з народным артыстам СССР Алегам Басілашвілі. Часткі 1-я і 2-я.
**14.30** «Чорная бяроза». Кінараман. 1-я і 2-я часткі (СССР, 1977 г.).
**16.45** «Салдаты памяці». Дакументальны фільм.
**17.15** «Марткантакт-2015». Х міжнародны маладзёжны тэатральны форум.
**17.40** «Тая, што бяжыць па хвалях». Меладрама (СССР-Балгарыя, 1967 г.).
**19.10** Калейдаскоп.
**19.20** «Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты». Рок-опера (СССР, 1982 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Камертон». Спявак, кампазітар, народны артыст Расіі Аляксандр Градскі.
**21.25** «Блакітны анёл». Музычная драма (Германія, 1930 г.).
**23.05** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.10** Змяшаныя адзінаборствы. ММА. М-1 Global.
**10.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**12.10** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфіналы.
**17.10** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**19.05** Піт-стоп.
**19.35** Змяшаныя адзінаборствы. ММА. М-1 Global.
**21.40** Тэніс. Уімблдон.
**23.40** Еўрапейскі покерны тур.
**00.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Акварыум, серыял.
**09.20** Басаножна свеце (спазнаваўчая праграма): На шляху да гімбаў.
**09.50** Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым, д/ф.
**10.50** Невядомая Беларусь: Дзень «Ч». Версія, д/ф: ч. 2.
**11.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Інфлянцкая (Лівонская) вайна.
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.
**11.45** Два на два (тэледыскусія): Святлана Куль і Юрый Чавусаў.
**12.20** Хрушчоўкі – гісторыя вялікага падману, рэпартаж.
**12.35** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**13.20** Дэкалог-89+, цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 7: Street Feeling.
**16.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**16.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.00** Апантаныя, дак. цыкл.
**17.15** Мова нанова: Рэклама.
**17.30** Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым, д/ф.
**18.30** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Крысціна Вітушка.
**19.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Кароль Сціпан Батура і канец Інфлянцкай вайны.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Трэці падзел Рэчы Паспалітай.
**19.25** Невядомая Беларусь: Першая катастрофа, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Беларускі вакзал.
**22.20** Дзяўчына з Поўдня, д/ф.
**23.15** Выкрадаючы рай, трылер.
**00.40** Студыя «Белсат».

## 18 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.30** Існасць.
**05.55** Камедыйная меладрама «Муж на гадзіну».
**09.00** Навіны.
**10.20** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** 50 рэцэптаў першага.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**12.50** Кулінарная дыпламатыя.
**13.25** Выхад ёсць.
**14.00** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Нашы.
**15.45** Камедыя «Хачу замуж».
**17.30** Нам не жыць адзін без аднаго.
**19.15** Меладрама «Васількі».



**21.00** Панарама.
**21.35** Меладрама «Васількі».
**23.20** Камедыя «Кухня» (Расія).
**00.20** Дзень спорту.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.25** Смак.
**11.05** Ідэальны рамонт.
**12.20** Шматсерыйны фільм «Асабістае жыццё следчага Савельева».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Інструкцыі не прыкладаюцца».



**18.45** Здабытак рэспублікі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** КВЗ. Прэм'ер-ліга.
**00.05** Камедыя «Дзве стралы. Дэтэктыў каменнага веку».

### СТВ

**06.15** Паміж анёлам і нячысцікам.
**08.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**09.55** «Майская ноч, або тапеліца».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.40** «Салдаты 3». Серыял.
**13.40** «Інспектар ДАІ».
**13.40** «Паласаты рэйс».
**15.10** «Вадзіць па-руску».
**15.50** «Вялікі горад».
**16.40** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.40** «Гадзіна пік 2».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Нябачны бок».
**22.25** «Дакументальны спецпраект».
**00.10** «Масква. Дзень і ноч».
**01.50** «Інспектар ДАІ».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**07.40** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**09.40** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** Азбука густу.
**10.50** Прэм'ера. Анімацыйны фільм «Оз: Вяртанне ў смарагдавы горад» (ЗША-Індыя).
**12.20** Капейка ў капейку.
**12.55** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці шоў (Украіна).
**14.40** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**17.05** Вострасюжэтны баявік «Былых не бывае» (Расія). 1-я, 2-я, 3., 4-я серыі.
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Рамантычная камедыя «Сябар нявесты» (ЗША).
**23.30** Хачу ў тэлевізар!
**23.35** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «АРТиШОК». Бітлз-фэстываль на Беларусі.
**08.35** «Дзень добры, я ваша цётка!». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1975 г.).
**10.15** «Камертон». Спявак, кампазітар, народны артыст Расіі Аляксандр Градскі.
**10.40** «Вандроўніца». Старонкі кнігі Сафіі Снесаравай пра вандроўніцу Дар'юшку. Дакументальны фільм.
**11.25** «Іжорскі батальён». Ваенная драма (СССР, 1972 г.).
**12.50** «Якаў Крэйзер. Забыты генерал». Дакументальны фільм.
**13.30** Калейдаскоп.
**13.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.15** Мультфільм.
**14.30** «Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты». Рок-опера (СССР, 1982 г.).
**15.55** «Дзень добры, я ваша цётка!». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1975 г.).
**17.35** Калейдаскоп.
**17.45** «Чалавек-амфібія». Фантастычная меладрама. 1-я - 4-я серыі (Расія, 2004 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Сабрына». Рамантычная камедыя (ЗША, 1954 г.).
**22.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Алесь Камоцкі.
**23.30** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.30** PRO спорт. Навіны.
**06.45** Спорт-мікс.
**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.20** Піт-стоп.
**07.45** Змяшаныя адзінаборствы. ММА. М-1 Global.
**09.50** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Амерыка - Манчэстар Юнайтэд. Прамая трансляцыя.
**11.55** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Рэал (Мадрыд) - Рома. Прамая трансляцыя.
**13.55** Тэніс. Уімблдон. Адзіночны разрад. Жанчыны. Фінал.
**15.55** Тэніс. Уімблдон. Адзіночны разрад. Жанчыны. Фінал.
**17.55** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Румынія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**20.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**21.35** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**22.50** Футбол. Міжнародны Кубак чэмпіёнаў. Рэал (Мадрыд) - Рома.
**00.40** Еўрапейскі покерны тур.
**01.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Грыбы.
**08.35** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.50** Вынаходлівы Дабрамір, мультсерыял.
**09.05** Ажыятаж вакол Басі, серыял.
**09.35** Мова нанова: Паэзія.
**09.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.25** Людскія справы: Беларускі спорт: Хто плаціць?
**10.55** Форум (ток-шоу): Беларускі вакзал.
**11.50** Я люблю дэмакратыю. Дарожны сшытак, ЗША, д/ф.
**12.45** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Гісторыя нікчэмнасці.
**13.40** Куба: фіеста, чорны рынак і рэжым, д/ф.
**14.40** Глыбокая вада, серыял.
**15.25** Выкрадаючы рай, трылер.
**16.55** Крызіс у раі, д/ф.
**17.55** Час гонару, серыял.
**18.45** Беларусы ў Польшчы.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тамаш Ваўжэцкі.
**19.10** Нафтаправод за плотам, д/ф.
**20.45** Аўтаспынам па Беларусі: Эксперыментальныя дамы з гліны.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.15** Шараговец Джэйн, м/ф.
**23.20** Mad Men. Утрапёныя ІІ, серыял.
**00.05** Студыя «Белсат».
**00.25** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Наста Шпакоўская.
**01.00** ГУЛаг схаваны ў памяці, д/ф.
**01.55** Акварыум, серыял.

TV

## 19 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.25** Меладрама «Родны чалавек».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Байкі Міцяя».
**10.45** 50 рэцэптаў першага.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Нашы.
**15.45** Меладрама «Малахольная».
**17.40** Меладрама «Бабіна царства».
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.30** Навіны надвор'я.
**22.55** Камедыя «Хачу замуж».
**00.35** Камедыя «Байкі Міцяя».

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** «Фазэнда».
**10.30** Горка!
**11.20** Новае летняе тэлебачанне.
**13.05** Мастацкі фільм «Няскончаная п'еса для механічнага піяніна».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мультфільм.
**17.50** КВЗ. Сочы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Мастацкі фільм «Лепшая прапанова».



**23.25** Мастацкі фільм «Багіня. Як я палюбіла».

### СТВ

**06.20** «Студэнты International». Серыял.
**07.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.25** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.50** «Нябачны бок».
**10.05** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Салдаты 3». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Сабор Парыжскай Багамаці».
**15.50** «Дарагая перадача».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Гісторыя пра нас».
**22.50** «Званая вячэра».
**23.55** «Масква. Дзень і ноч».
**01.35** «Сабор Парыжскай Багамаці».

### Беларусь 2

**07.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.50** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.30** Я хачу гэта ўбачыць!
**11.05** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**13.55** Рамантычная камедыя «Сябар нявесты» (ЗША).
**15.45** Псіхалагічная драма «Уол Стрыт: Грошы не спяць» ЗША.
**18.00** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.40** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**23.25** Псіхалагічны трылер «Што хавае хлусня» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Чалавек-амфібія». Фантастычная меладрама. 1-я - 4-я серыі (Расія, 2004 г.).
**11.10** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Алесь Камоцкі.
**11.50** «Наперад у мінулае».
**12.20** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.10** Калейдаскоп.
**13.20** «Азёрная Адысея». Возера Чырвонае.
**13.50** «Беларускае вяселле». Музычны фільм з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І. Цітовіча.
**14.15** «Маёр Ветраў». Прыгодніцкі баявік. Часткі 1-я - 4-я (Беларусь, 2007 г.).
**17.40** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі слуцкіх паясоў.
**18.05** «Грані Перамогі». Рэліквіі Перамогі.
**18.35** «Зямля, якая дае мне сілы». Дакументальны фільм пра вядомага харэографа і танцора Мікалая Котава.
**19.00** Калейдаскоп.
**19.10** «Па запалкі». Эксцэнтрычная камедыя (СССР, 1980 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.00** «Маёр Ветраў». Прыгодніцкі баявік. Часткі 1-я - 4-я (Беларусь, 2007 г.).
**01.15** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**06.55** PRO спорт. Навіны.
**07.10** Спорт-мікс.
**07.25** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Паўфінал.
**08.55** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Румынія - Беларусь.
**10.55** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. ПСЖ - Порту. Прамая трансляцыя.
**12.55** Хакей. Таварыскі матч. Дынама-Мінск - Юнацтва - Мінск. Прамая трансляцыя.
**15.10** Тэніс. Уімблдон. Адзіночны разрад. Мужчыны. Фінал. Парны разрад. Жанчыны. Фінал.
**18.55** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Матч за 3-е месца. Прамая трансляцыя.
**20.25** Пляжны футбол. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.40** Баскетбол. 3х3. Нацыянальная ліга. 1-ы этап.
**22.45** Футбол. Міжнародны Кубак Чэмпіёнаў. ПСЖ - Порту.
**00.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Фітнес-шмітнес.
**07.35** Беларусы ў Польшчы.
**07.50** Два на два (тэледыскусія): Святлана Куль і Юрый Чавусаў.
**08.20** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Праца.
**08.30** Вынаходлівы Дабрамір, мультсерыял.
**08.40** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Ажыятаж вакол Басі, серыял.
**09.25** Мова нанова: Кватэра.
**09.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.10** 54 % (публіцыстычная праграма): Самамамы.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?
**11.25** Час гонару, серыял.
**12.15** Хвароба Альцгаймэра і халестэрын, д/ф, 2003 г., Канада.
**12.30** Хрушчоўкі – гісторыя вялікага падману, рэпартаж.
**12.45** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**13.30** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.20** Нафтаправод за плотам, д/ф.
**15.50** Дзяўчына з Поўдня, д/ф.
**16.45** Шараговец Джэйн, м/ф.
**18.50** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**19.00** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 1.
**19.50** Невядомая Беларусь: Як пошуг маланкі, рэпартаж.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лаўрышаўскага манастыра.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Валер Карбалевіч.
**21.15** Ідэальны муж, камедыя.
**22.55** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**23.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Наста Шпакоўская.
**00.15** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.10** Правы быць свабодным (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гурта «Індыга».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Бунт кансерватараў

Алег НОВІКАЎ

**Заклікамі да сепаратызму, сабатажам і пагрозамі калектыўнага самаспалення кансерватыўная Амерыка адрэагавала на рашэнне Вярхоўнага суда краіны легалізаваць аднаполыя шлюбы.**




26 чэрвеня ў ЗША праз адпаведнае рашэнне Вярхоўнага суда былі цалкам легалізаваныя аднаполыя шлюбы. Вышэйшая судовая інстанцыя Злучаных Штатаў пастанавіла, што Канстытуцыя гарантуе права для аднаполых параў заключыць шлюб. Сваім рашэннем Вярхоўны суд абавязаў улады ўсіх штатаў рэгістраваць аднаполыя шлюбы, а таксама прызнаваць такія шлюбы, калі яны заключаны ў іншай юрысдыкцыі. Да рашэння Вярхоўнага суда аднаполыя шлюбы ўжо былі легалізаваныя ў 35 штатах з 50. Каментуючы рашэнне Вярхоўнага суда, амерыканскі прэзідэнт Барак Абама заявіў: «Каханне толькі што перамагло».

Аднак за акіянам хапае тых, хто далёка не ў захапленні ад вердыкту Феміды. Гутарка пра амерыканцаў кансерватыўных поглядаў. «Ні адзін суд не можа адмяніць законы прыроды. Прырода і Бог віталі падпісантаў нашай Дэкларацыі незалежнасці як асноўнай крыніцы права, якое не можа быць узурпаванае рашэннем суда, нават Вярхоўнага суда Злучаных Штатаў», — пракаментаваў сітуацыю прэзідэнт фонду «Навукова-даследчы савет сям'і», адной са шматлікіх установаў, якія прапагандуюць кансерватыўныя каштоўнасці. Яшчэ далей пайшло «Сямейнае радыё», якое назвала «26 чэрвеня новым 11 верасня»: «26 чэрвеня 2015 года — дзень, калі вежы-блізняты ісціны і праведнасці былі ўзарваныя маральнымі джыхадзістамі», — пафасна сказаў ды-джэй радыёстанцыі.

У выніку літаральна за тыдзень у ЗША паўстаў шырокі грамадскі фронт супраць новага закону. Гэта буйны, аднак неаднародны рух з рознымі фракцыямі. Напрыклад, тут ёсць адміністрацыі штатаў, дзе марш Мендэльсона для гомасексуалістаў забаронены на афіцыйным узроўні. «Не існуе Тэхасу, які падпарадкуецца рашэнню Вярхоўнага суда насуперак сваім рэлігійным перакананням наконт інстытуту шлюбаў», — заявіў тэхаскі губернатар Грэг Эбат. Пры гэтым каментатары адзначаюць, што рыторыка губернатара Тэхасу балансуе на мяжы сепаратызму. Эбат і яго прыхільнікі лічаць, што ў дадзеным выпадку мае месца парушэнне прававых прынцыпаў федэрацыі, паводле якіх шлюбы — гэта кампетэнцыя штатаў.

Праўда, ваяўнічыя позы губернатараў-гомафобаў выклікаюць у грамадстве хутчэй іранічную ўсмешку. Усе памятаюць, як у 1963 годзе падобным чынам рэагаваў на рашэнне Вярхоўнага суда пра забарону расавай сегрэгацыі ў навучальных установах губернатар Алабамы Джордж Уолес. Губернатар нават спрабаваў сваім целам забарыкадаваць дзверы ўніверсітэта Алабамы, намагаючыся не дапусціць туды студэнтаў з чорнай скурай.

Згадваючы Уолеса, мала хто верыць, што сепаратысцкая фронда на месцах мае перспектыву. У ЗША паважаюць закон, а ён у дадзеным выпадку на іншым баку. Так, губернатар Кентукі, дзе аднаполыя шлюбы таксама забароненыя, адразу падпарадкаваўся рашэнню вышэйшай інстанцыі. «Ніхто, нават Вярхоўны суд не можа прымусіць вас адмовіцца ад вашых перакананняў, аднак як абраны орган суд мае права патрабаваць законапаслухмяных дзеянняў», — сказаў палітык.

Але, як сведчыць гісторыя, імплементацыя таго ж закону супраць сегрэгацыі праходзіла нялёгка. Чарнаскурыя амерыканцы яшчэ доўга заставаліся людзьмі другога гатунку з-за моцных бытавых забабонаў. Сэксменшасцям, падаецца, будзе патрэбна прайсці той жа шлях. У якасці рэакцыі на навіны з Вашынгтону ў некаторых штатах стыхійна пачалі фармавацца кааліцыі святароў розных рэлігій, уключаючы, дарэчы, мулаў, якія абяцаюць не абвяшчаць прадстаўнікоў секс-меншасці сужонкамі. Да «змовы» падключыліся фірмы, якія займаюцца рознымі вясельнымі паслугамі.

Далей за ўсё ў гэтым накірунку пайшоў нехта Рык Скарбара, былы евангеліцкі святар, які абяцае спаліць сябе ў выпадку, калі геі сапраўды пачнуць заключаць шлюбы. Калі верыць выданню «The Huffington Post», ініцыятыву Рыка гатовыя падтрымаць яшчэ некалькі тузінаў рэтраградаў.

Натуральна, не прайшлі міма апошніх падзей і кансерватыўныя палітыкі, асаблівы тыя, хто мае інтэнцыі стаць кандыдатам ад рэспубліканцаў на прэзідэнцкіх выбарах 2016 года. Напрыклад, кандыдат Бобі Джындал паабяцаў у выпадку свайго пераезду ў Белы дом не толькі адмяніць права геяў на шлюбы, аднак увогуле ліквідаваць Вышэйшы суд, які, на яго думку, марнуе сродкі падаткаплацельшчыкаў. Джэб Буш і Марка Рубіа — на думку прэсы, самыя перспектыўныя кандыдаты ад рэспубліканцаў на наступных выбарах, — гатовыя ў выпадку абрання ініцыяваць папраўку ў Канстытуцыю, якая перадае штатам права самім вырашаць, каго можна весці да алтара.

Так ці інакш, рашэнне Вярхоўнага суда ад 26 чэрвеня — моцны ўдар па пазіцыях і шансах рэспубліканцаў на наступных прэзідэнцкіх выбарах. Каб выйграць партыйны праймерыз і ўзначаліць рэспубліканскі лагер на выбарах 2016-га, кандыдатам давядзецца абяцаць кансерватыўнаму актыву адмену ненавісных аднаполых шлюбаў. Аднак, як сведчаць апытанні, большасць амерыканцаў не бачыць тут нічога кепскага. Прычым сярод іх — большая частка (60 працэнтаў) моладзі — актыўнай часткі насельніцтва.

Сайт «Fox» адзначае з гэтай нагоды: «Каб пераможца ў намінацыі кандыдата GOP, адзін з ціперашніх 13 прэтэндэнтаў мае публічна сказаць нешта накшталт: "О, я супраць аднаполых шлюбаў. Аднак на ўзроўні агульных выбараў гэта будзе выглядаць не так крута. Гэта таксама тычыцца і выбараў у Палату прадстаўнікоў. Тэма аднаполых шлюбаў, хутчэй за ўсё, не будзе вырашальнай на выбарах 2016 года. Аднак дакладна, што гэта не тая тэма, якая дапаможа рэспубліканцам перамагчы».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Бежанцы з Данбаса сталі галаўным болем для Беларусі. У пачатку ўзброенага канфлікту на Украіне іх прымалі больш чым гасцінна, а цяпер афіцыйныя асобы ўжо ў адкрытую кажуць пра «занадта вялікую розніцу ў менталітэце і выхаванні» славянскіх братоў, пра рост злачыннасці сярод украінскіх эмігрантаў і канкурэнцыю на рынку працы, што прыкметна ўзмацнілася. Пры гэтым у Беларусі з пачатку года з-за крызісу імкліва расце беспрацоўе. Многія прамысловыя прадпрыемствы ўжо цяпер працуюць па два-тры дні на тыдзень альбо наогул спыняюцца. Адпаведна, зніжаюцца і зарплаты, і без таго вельмі нізкія ў беларускай правінцыі. У гэтай сітуацыі ўкраінцы становяцца сур'ёзнымі канкурэнтамі беларусам на нефармальным рынку працы.

**«Газета.ру» (Расія)**

Улады ўсур'ёз разлічваюць, што Беларусь пазбавіцца ад статусу ізгоя, а прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка стане легітымным кіраўніком дзяржавы. Падставы для такіх спадзяванняў ёсць: ледзь не штодня ў Мінск прыязджаюць еўрапейскія візіцёры, усяляк заахвочваючы Мінск да такога развіцця падзей. ...Напрыклад, міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей прызнаўся, што Мінск разлічвае на тое, што пасля выбараў краіне ўдасца сысці ў адносінах з ЕС ад «цыклічнасці, якая заўсёды ўзнікала раней». Эксперты мяркуюць, што гаворка ідзе пра такую з'яву ў знешняй палітыцы Беларусі, якую журналісты назвалі «арэлі» — афіцыйны Мінск набліжаецца то да Еўропы, то да Расіі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Лукашэнка здзівіў расійскае кіраўніцтва, захаваўшы нейтралітэт у расійска-ўкраінскім канфлікце. Заходнія дзяржавы, якія на працягу доўгага часу ігнаравалі Лукашэнку з-за парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, адразу зразумелі гэтыя «тонкія намёкі». Адносіны Мінска з заходнімі краінамі пачалі цяплець. Многія аналітыкі на постсавецкай прасторы мяркуюць, што падобныя дзеянні не маглі застацца без адказу з боку Расіі. Так і адбылося, рушылі ўслед мядзведжыя задушлівыя абдымкі з боку Крамля. Амбасадар Расіі ў Беларусі заявіў, што на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах Масква падтрымлівае кандыдатуру Лукашэнкі. Выбары запланаваныя на кастрычнік. Пасля таго, як пасол зрабіў сваю заяву аб падтрымцы прэзідэнта, Лукашэнка загаварыў у іншым тоне і раскрытыкаваў намер ЗША размясціць у Еўропе сучаснае ўзбраенне.

**«NRG» (Ізраіль)**

Беларусь заслужыла шмат кампліментаў ад прадстаўнікоў Еўрапейскай камісіі з нагоды ўзроўню арганізацыі сустрэчы. Тым не менш, адносіны Брусэля і Мінска застаюцца складанымі. З-за палітычных рознагалоссяў і таго, якім чынам Аляксандр Лукашэнка паўторна заняў крэсла кіраўніка дзяржавы, Брусэль амаль на дзесяць гадоў замарозіў пагадненне аб супрацоўніцтве з Мінскам, а шэрагу беларускіх палітыкаў, у тым ліку і самому Лукашэнку, было адмоўлена ва ўездзе на тэрыторыю ЕС. У той жа час Еўропа працягвае падтрымліваць апазіцыю, дэмакратыю і праваабарончыя арганізацыі на тэрыторыі Беларусі. Аднак з моманту пачатку расійскай агрэсіі ў дачыненні да Украіны, прыкметна жаданне палітыкаў Беларусі і ЕС патроху стаць больш адкрытымі і пачаць дыялог аб супрацоўніцтве.

**«Latvijas Sabiedriskie mediji» (Латвія)**

На фоне цяжкага ўкраінскага крызісу, стаўленне да якога паступова змяняецца ў Еўропе і ЗША, яшчэ адзін сцэнар у стылі нацыянальнага крызісу ў тым жа рэгіёне Еўрасаюз, нават пры маштабнай падтрымцы ЗША, не выцягне, як, зрэшты, і Масква. Так што ў аснове знешняй рэакцыі на прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, незалежна ад геапалітычнага вектара, будзе ляжаць імкненне захаваць у рэспубліцы палітычны статус-кво. Усе размовы аб тым, што Беларусь пасля Украіны з'яўляецца другой у чарзе на мяцеж, не маюць пад сабой якіх-небудзь сур'ёзных падстаў, калі не прымаць у разлік зусім экзатычныя сцэнары, якія ўключаюць выкарыстанне беларускіх удзельнікаў АТА на Данбасе для разгону мінскага АМАПа.

**«112» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Войны бамжоў

Андрэас Дзюлік, рэдактар берлінскага выдання «Strassenfeger», звярнуўся да берлінцаў па дапамогу. Перш за ўсё трэба растлумачыць, што «Strassenfeger» — унікальнае і нават легендарнае выданне. Яго выдаюць і прадаюць на вуліцах і ў метро берлінскія бамжы, якія жывуць на сродкі з продажу. Берлінцы заўсёды ахвотна куплялі «Strassenfeger», падтрымліваючы людзей, які не проста жабруюць, а нешта робяць. У нейкі час рэдакцыя мела столькі сродкаў, што нават заснавала т. зв. Акадэмію жабрацтва і ўзяла ў штат трох прафесійных журналістаў. Аднак цяпер часы мяняюцца ў кепскі бок. Па словах Дзюліка, прычынай сталі жабракі з Усходняй Еўропы, які праз агрэсіўнае жабрацтва падарвалі добрае стаўленне бюргераў да бамжоў. Немцы пачалі шугацца жабракоў і, як следства, продажы «Strassenfeger» значна скараціліся. Андрэас заклікаў нямецкае грамадства дапамагчы выратаваць праект і адначасова дапамагчы людзям без даху над галавой.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Апошнія лемкі Рэчы Паспалітай

У Польшчы закончыліся выпускныя школьныя іспыты, якія мелі ў тым ліку палітычны падтэкст. У люблінскім ваяводстве іспыты здавала Ганна Шмайда. Яна аказалася адзіным вучнем ва ўсёй краіне, якая здавала іспыт на веданне мовы лемкаў. Нагадаем, што лемкі — этнаграфічная група ўкраінцаў, што жыве ў горных раёнах на мяжы Украіны, Польшчы і Славакіі. Паводле перапісу 2011 года, у Польшчы жыве каля 10 тысяч лемкаў. Да вайны іх было каля 150 тысяч, аднак у 1945 годзе, у рамках антыбандэраўскай аперацыі «Вісла», большасць польскіх лемкаў прымусова дэпартавалі ва Украіну. Як піша прэса, сёння большасць польскіх лемкаў дасюль карыстаецца роднай мовай, аднак сярод маладых прадстаўнікоў этнасу сертыфікат на веданне мовы не з'яўляецца прыярытэтным. Пры гэтым сама дзяржава зацікаўленая ў захаванні гэтай этнічнай культуры. У свой час ахвярам аперацыі «Вісла» прапанавалі вярнуцца ў Польшчу, аднак толькі 3–5 працэнтаў калісьці дэпартаваных лемкаў пагадзіліся на рэпатрыяцыю.

**Паводле польскай прэсы**

### ЗША. Калі прызнаюць Бутан?

Рашэнне Вашынгтона цалкам аднавіць дыпламатычныя адносіны з Кубай выклікала інтарэс да трох дзяржаў на планеце, які дасюль не прызнаныя ЗША. Калі з Іранам і Паўночнай Карэяй усё зразумела (гэта старыя геапалітычныя праціўнікі Штатаў), то сітуацыя вакол Бутана абсалютна не зразумелая. Бутан — краіна ў Гімалаях, сусед Кітаю і Індыі, якая ніколі не ваявала з янкі. З іншага боку, самі бутанцы не жадаюць адчыняцца свету. Яны нават дазволілі індыйскаму МЗС выконваць функцыі бутанскай




дыпламатычнай службы. Увогуле, толькі дзве краіны — Індыя і Бангладэш — маюць свае пасольствы ў Бутане. Эксперты кажуць, што праблема прызнання ЗША Бутану часовая. Гімалайская краіна мае тэрытарыяльны канфлікт з суседнім Кітаем, які, у сваю чаргу, прэтэндуе на 10 працэнтаў бутанскай тэрыторыі. З улікам набіраючага моц канфлікту паміж Пекінам і Вашынгтонам, апошні дакладна будзе намагацца ўключыць Бутан у склад сваіх саюзнікаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Рурыкаў да ўлады!

Украінскія праварадыкалы правялі ў Кіеве марш у гонар перамогі кіеўскага князя Святаслава над хазарамі, што здарылася ў 965 годзе. Акцыя, якая мела відавочны антысеміцкі прысмак, паколькі хазары вызнавалі іудаізм, выклікала інтарэс да рэштак дынастыі Рурыкаў. Аказваецца, ва Украіне хапае жадаючых адрадзіць манархію, якой будуць кіраваць прадстаўнікі дынастыі Рурыкаў. Ёсць і канкрэтныя прэтэндэнты. Галоўны з іх — нехта 62-гадовы Арэст Карэлін. У свой час ён шчыльна працаваў з Алелькам Другім — прадстаўніком роду Рурыкаў і Даўгарукіх, які ў 1918 паспеў абвясціць сябе каралём Украіны. У 1995 годзе Алелька Другі памёр, паспеўшы прызначыць Карэліна сваім рэгентам. Рэгент, які патрабуе, каб яго называлі Арэст Першы, вядзе вельмі актыўную дзейнасць. Ён раздае тытулы, і нават паспеў у 2013 годзе абвясціць Украіну імперыяй. Цікава, што ў свой час Арэст, па яго словах, таксама даслаў княжацкі тытул Аляксандру Лукашэнку.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Арменія: Электрамайдан і апазіцыя

**Амаль месяц армяне пратэстуюць. Акцыі, якія пачыналіся як пратэст супраць падвышэння коштаў на электраэнергію, фактычна сталі пратэстам супраць дзеючай улады. Як гэта адлюструецца на перспектывах армянскай апазіцыі? Пра гэта журналісту НЧ Алегу Новікаву адказвае сябра апазіцыйнага Армянскага нацыянальнага кангрэсу Арменак Давлацян.**



***— Што ўяўляла сабой армянская апазіцыя напярэдадні Электрамайдана, як яшчэ называюць гэты пратэст?***

— Галоўным чынам дзейнасць апазіцыі будавалася вакол яе парламенцкай групы. У парламенце ёсць група з сямі дэпутатаў, якія ўваходзяць у кааліцыю «Армянскі нацыянальны кангрэс» (АНК). Праўда, сам АНК таксама не вельмі аднародны. Адзінае, што аб'ядноўвае яго сяброў, — намаганне не дапусціць росту аўтарытарызму прэзідэнта Сержа Саргсяна. Адсюль, напэўна, і адсутнасць адзінай пазіцыі адносна Электрамайдана. Некаторыя з партый — суб'ектаў АНК спрабавалі палітызаваць пратэсты. Іншыя лічылі, што сацыяльна-эканамічныя патрабаванні больш актуальныя. Справа ў тым, што сярод моладзі адчуваецца стомленасць ад партый, і непартыйны характар акцыі на Баграмяна дапамагаў уцягнуць шмат простых людзей у палітычны працэс.

***— Які сацыялагічны партрэт сярэднестатыстычнага ўдзельніка Электрамайдану?***

— Ядро маніфестантаў складае моладзь, пачынаючы з 16 гадоў. Сярэдні ўзрост актывістаў — 25–30 гадоў. Па сутнасці, гэта першы ў армянскай гісторыі калектыўны выступ, абсалютная большасць удзельнікаў якога не фармавалася як асобы ў СССР. Незвычайна было пабачыць на вуліцах раней даволі апалітычных хлопцаў са спальных кварталаў, якія сапраўды жывуць вельмі кепска. Юнакі са спальных кварталаў прынеслі нешта новае ў тактыку пратэстоўцаў. Нашы паліцэйскія мелі вопыт разгону грамадзянскіх акцый, аднак упершыню сутыкнуліся з «нахабнай» вулічнай блакадай цэнтру. Праўда, каардынацыю акцыі ўзялі на сябе маладыя людзі з добрай адукацыяй. Шмат хто з іх вучыўся за мяжой, меў уяўленне пра ролю прэсы, прававыя межы паліцэйскіх і г.д.

***— Украінская прэса разлічвала, што пратэсты на праспекце Баграмяна могуць перарасці ў антырасійскае паўстанне, аднак эканамічныя лозунгі ў выніку засталіся дамінуючымі?***

— Дзіўна, што чакалі антырасійскіх выступаў. У нас былі свае Майданы — масавыя палітычныя выступы. Напрыклад, у 1996 або ў 2008 гадах. Прычым тады маніфестацыі былі больш буйныя, чым сёння. Тое, што пратэст меў яскрава эканамічную прыроду, наўпрост звязана з фарматам руху. Тут не было адзінага цэнтру, а моладзь адмаўлялася падпарадкоўвацца старым палітыкам, і нават сваім аднагодкам, якія намагаліся браць лідарскія функцыі. Таму цалкам лагічна, што на першым месцы засталіся першапачатковыя эканамічныя патрабаванні — адмена новых коштаў плюс аўдыт кампаніі «Электросеть». Нагадаю, што фармальнай падставай для новых тарыфаў стаў доўг кампаніі ў 250 мільёнаў долараў. Шмат хто лічыць, што гэта лічба ўзнікла як следства нейкіх карупцыйных махінацый унутры кампаніі.

***— Ці далі пратэсты новыя твары апазіцыі?***

— Так. З'явілася шмат новых людзей. Напрыклад, Вагінак Шушанян, адзін з лідараў ініцыятывы «Не рабунку!». Аднак казаць пра палітычную кар'еру Вагінака

**Пераход ад прэзідэнцкай рэспублікі да парламенцкай дазволіць Саргсяну застацца кіраўніком краіны неабмежаваную колькасць кадэнцый**

Шушаняна і іншых лідараў Электрамайдану яшчэ рана.

***— Расійская прэса ў час кульмінацыі пратэстаў пераконвала аўдыторыю, што Майдан у Арменіі немагчымы з-за праблемы Карабаху. Маўляў, армяне не пойдуць на эскалацыю, баючыся за сваю мяжу з Азербайджанам.***

— Я ўжо казаў, што ў 2008 годзе ў Ерэване былі больш маштабныя пратэсты, чым зараз, аднак карабахская праблема пры гэтым не гуляла асаблівай ролі. Аднак, безумоўна, тэма Карабаху часткова стрымлівае апазіцыю. Гэтым карыстаецца і Масква. Тое, што яна на днях выказала гатоўнасць прадаць Арменіі ракетны комплекс «Іскандэр», было вельмі пазітыўна ўспрынята ў армянскім грамадстве.

***— Апазіцыя паспрабавала перафарматаваць пратэст, аб'явіўшы ўладам ультыматум і заявіўшы пра смеццевую акцыю «Крок наперад». Пасля гэтага паліцыя разагнала авангард маніфестантаў. Якая будучыня ў пратэсту цяпер?***

— Усіх затрыманых падчас разгону ўвечары выпусцілі, і зараз ідуць кансультацыі, што рабіць далей. У цэлым, улада перахапіла ініцыятыву ў радыкальных груп, якія спрабавалі накіраваць сацыяльны пратэст у палітычнае рэчышча. Але казаць пра тое, што ўсё скончылася, на мой погляд, заўчасна. Думаю, абвастрэнне сітуацыі цяпер трэба чакаць наступнай вясной, калі ўлады пачнуць мяняць канстытуцыю. Зараз у Саргсяна заканчваецца другі прэзідэнцкі тэрмін. Больш абірацца ён не мае права. Таму ў адміністрацыі рыхтуюць праект пераходу з прэзідэнцкай да парламенцкай рэспублікі. Гэта дазволіць Саргсяну ў статусе прэм'ера па-сутнасці застацца кіраўніком краіны, прычым на неабмежаваную колькасць кадэнцый. Думаю, трэба чакаць рэакцыі грамадства, і самае галоўнае, што гэты пратэст будзе больш палітызаваны.

***— Ваша краіна геаграфічна блізкая да Блізкага Усходу, дзе зараз вельмі не спакойна. У Арменіі неяк адчуваецца напружанасць у рэгіёне?***

— Безумоўна. Напрыклад, у Сірыі была моцная армянская камуна, якая вымушана таксама змагацца супраць ісламістаў. Акрамя таго ў армянскіх палітычных колах шмат кажуць пра курдскі праект — стварэнне курдскай дзяржавы, межы якой могуць праходзіць вельмі блізка ад Арменіі. Гэта можа цалкам змяніць месца Арменіі ў сістэмах рэгіянальнай і сусветнай палітыкі. Аднак пакуль усё гэта — кулуарныя размовы.

# Хто спыніць Цыпраса?

Алег НОВІКАЎ



**Адным з наступстваў вынікаў рэферэндуму 6 ліпеня стала маргіналізацыя лагера апанентаў Алексіса Цыпраса. Хто з грэчаскіх палітыкаў мае шанс кінуць выклік лідару левага блоку «Syriza»?**

Уадным з нядаўніх з інтэрв'ю цяперашні прэм'ер Грэцыі распавёў пра тое, як вялікая палітыка ўплывае на атмасферу ў яго сям'і. Аказваецца, Перыстэра, грамадзянская жонка Алексіса, пагражае яго кінуць, калі той праявіць слабасць у барацьбе з сусветным капіталізмам.

Думаецца, ультыматум Перыстэры быў не апошняй прычынай для Цыпраса, каб 27 чэрвеня пайсці ва-банк. Крок для ўраду быў вельмі рызыкоўны, паколькі прыхільнасці грэкаў па згаданым пытанні спачатку былі падзеленыя пароўну. Аднак у выніку каля 60 працэнтаў элінаў усё ж падтрымалі пазіцыю ўраду, абраўшы ў бюлетэнях опцыю «не». Такім чынам, Цыпрас не толькі ўзмацніў свае пазіцыі ў перамовах з Тройкай, але стаў культавай фігурай сярод левых усяго свету. Вынікі рэферэндуму таксама цалкам перафарматавалі грэчаскую палітычную сцэну, ператварыўшы правую апазіцыю ў статыстаў на фоне «непаслухмянага хлопчыка» (такую мянушку далі Цыпрасу ў еўрапейскай прэсе).

Крызіс апазіцыі праявіўся таксама ў сыходзе з палітыкі Антоніса Самараса, пра які ён абвясціў на наступны пасля плебісцыту дзень. Самарас — папярэдні прэм'ер Грэцыі, да рэферэндуму кіраваў найбольш буйной апазіцыйнай партыяй «Новая дэмакратыя» (ND), якая трымаецца правацэнтрысцкіх поглядаў. «Я разумею, што нашай партыі патрэбны свежы старт», — сказаў палітык у апошнім выступе ў статусе кіраўніка ND.

Сыход Самараса выглядае лагічным, паколькі стратэгія новых дэмакратаў будавалася менавіта на чаканні правалу кабінету Цыпраса. Усе даўно разумелі, што дэфолт Грэцыі непазбежны, паколькі выплаціць астранамічны доўг краіны ў 350 мільярдаў долараў — падобна на фантастыку. Паводле французскага «Le Monde», у апараце «Новай дэмакратыі» быў распрацаваны хітры план — ускладніць ганаровую місію абвесціць дэфолт на Цыпраса, які, будучы сацыялістам, мусіў загнаць адносіны з крэдыторамі ў клінч на працягу некалькі месяцаў. Пасля абвяшчэння дэфолту «Новая дэмакратыя» чакала датэрміновых выбараў і вяртання ў складзе ўраду, над якім тэма пазыкі ўжо не мусіла вісець, нібы Дамоклавы меч.

Аднак Цыпрас за кошт рэферэндуму прымусіў кансерватараў як крытыкаў плебісцыту фактычна выступаць за далейшыя антысацыяльныя рэформы. Як следства, «Новая дэмакратыя» яшчэ больш замацавала свой імідж партыі старога палітычнага тыпу, асабліва ў вачах моладзі. Каб неяк пазбавіцца такой асацыяцыі, аднапартыйцы Самараса сёння выстаўляюць былога лідара як крайняга. «Часы Самараса закончыліся. Таму цяпер сыход ураду Цыпраса дакладна непазбежны», — кажа Евангелас Меймаракіс, які часова, да правядзення партыйнага з'езду, пастаўлены кіраваць «Новай дэмакратыяй».

**Цыпрас стаў культавай фігурай сярод левых усяго свету. Вынікі рэферэндуму таксама цалкам перафарматавалі грэчаскую палітычную сцэну**

Еўрапейская прэса, у сваю чаргу, піша, што партыю чакае фаза ўнутранай барацьбы за пасаду лідара. У якасці кандыдатаў называюць былога сталічнага мэра, яго малодшага брата, які паспеў папрацаваць міністрам сацыяльнай абароны, былога міністра абароны і г.д. У масе прэтэндэнтаў выдзяляюць фігуру Костаса Караманліса, пляменніка вельмі паважанага ў краіне прэм'ера Канстанціна Караманліса, які адбудоўваў у Грэцыі дэмакратыю пасля заканчэння дыктатуры чорных палкоўнікаў (1974). Праўда, як прызнае прэса, усе жадаючыя заняць крэсла Самараса так ці інакш нясуць адказнасць за тое, што краіна апынулася ў такім цяжкім фінансава-эканамічным стане. Прынамсі, Костаса Караманліса лічаць аўтарам ідэі падрабляць справаздачы па міжнародных крэдытах.

У гэтым плане значна цікавейшы лідар PASOK — сацыялістычнай партыі, якая разам з партыяй кансерватараў доўгі час па чарзе кіравала Грэцыяй. Практычна напярэдадні рэферэндуму сацыялісты ў рамках агульнага галасавання абралі сваім новым лідарам 48-гадовую Фаціні Геніма, якая не скампраметаваная ў аферах з крэдытамі. PASOK вуснамі Фаціні таксама крытыкавала Цыпраса за ідэю рэферэндуму, аднак рабіла акцэнт на тым, што Цыпрас маніпулюе выбаршчыкамі. На думку сацыялістаў, лепшым варыянтам у такой сітуацыі быў роспуск парламенту і новыя выбары.

Пры ўсёй сімпатыі да новага лідара PASOK, эксперты асцярожна выказваюцца наконт яе будучыні. PASOK зараз яўна не ў лепшай форме. На студзеньскіх выбарах партыю падтрымалі толькі 4,6 працэнта прагаласаваўшых (для параўнання, у 2009-м за сацыялістаў аддалі галасы 42 працэнты выбаршчыкаў).

У парламенце таксама ёсць 17 цэнтрыстаў у выглядзе фракцыі ад партыі «To Potami», якія закідвалі Цыпрасу падчас парламенцкіх дэбатаў абвінавачанні ў еўрафобіі. Гэта маладая дынамічная партыя, якая, аднак, мае выразна папулісцкую прыроду. Фактычна, праект трымаецца на харызме яе заснавальніка, папулярнага шоўмена Стаўраса Тэадаракіса, які часам робіць супярэчлівыя і наіўныя для палітыка заявы. Напрыклад, ён заклікаў крэдытораў быць мілымі з грэкамі.

У Грэцыі таксама дзейнічаюць правыя партыі. Аднак, калі меркаваць па іх рэакцыі, Цыпрас, які выступае ў абарону суверэнітэту, у чымсьці нават сімпатычны. Часам яны крытыкуюць яго за тое, што прэм'ер не абвясціў пераход на драхму. Крытыкуюць за апартунізм і непаслядоўнасць Цыпраса і камуністы, якія патрабуюць ад ураду ледзь не абвяшчэння дыктатуры пралетарыяту.

Нягледзячы на відавочны крызісны стан грэчаскай апазіцыі, Алексіса Цыпраса наўрад ці чакае бясклопатнае жыццё. Грэцыя знаходзіцца ў такой турбулетнай сітуацыі, што новыя выклікі непазбежныя. Сацыяльныя супярэчнасці ў любым выпадку будуць даваць глебу для крытыкаў на адрас ураду. Пытанне толькі ў тым, ці будуць здольныя старыя партыі рэтрансляваць гэтыя настроі, або з'явяцца новыя апазіцыйныя полюсы. Гісторыя «Syriza», якая вырасла з нізавых ініцыятыў, сведчыць, што гэта цалка рэальна.

Між тым, у сеціве з'явіліся плёткі пра тое, што сярод грэчаскіх вайскоўцаў, дзе антылевыя ідэі традыцыйна вельмі папулярныя, шырыцца ідэя вайсковага перавароту. Называюць нават яго цэнтральную фігуру — экс-мінсітра абароны Франгаса Франгуліса, якога, дарэчы, у свой час адправілі ў адстаўку менавіта па падазрэнні ў арганізацыі перавароту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Фраўке Петры



Фраўке — новы старшыня вядучай нямецкай еўрафобскай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD). За яе кандыдатуру на з'ездзе партыі прагаласавала каля 60 працэнтаў дэлегатаў. Папярэдні старшыня і заснавальнік партыі Бернд Люке прайграў, што стала таксама знакам змены канцэпцыі партыі. Люке крытыкаваў еўраструктуры і еўраінтэграцыю з пазіцыі ліберал-кансерватара. Петры выказвае погляды правай фракцыі ў партыі, якая арыентуецца на вопыт аўстрыйскай «Партыі свабоды» або французскага «Нацыянальнага фронту». Яна за ліквідацыю шэнгенскай візавай зоны і канфедэратыўны прынцып Еўрасаюзу. Такія погляды дазволілі апанентам Фраўке называць яе «неанацыст у авечай скуры». Падобная эмацыйная рыторыка ўскосна сведчыць пра моцную канфрантацыю ўнутры партыі, што можа, на думку спецыялістаў, прывесці да яе расколу. За першыя два дні пасля з'езда партыю сапраўды пакінулі 600 чалавек, а Фраўке нават прызналася, што думае пра заснаванне новай партыі. Калі сітуацыя у AfD стабілізуецца, мы можам стаць сведкамі незвычайнага эксперыменту. Раней на базе «Альтэрнатывы для Германіі» быў створаны партыйны фонд, які сярод іншага хацеў весці працу ва Украіне, адгаворваючы ўкраінцаў ад уступлення ў ЕС.

### Нгуен Фу Чонг



Генсек В'етнамскай камуністычнай партыі, які па сутнасці кіруе краінай, наведаў Вашынгтон, дзе меў сустрэчу з Баракам Абамам. Гэта, безумоўна, гістарычная падзея з улікам складанай гісторыі адносінаў паміж краінамі. Аднак актуальныя выклікі прымусілі Ханой і Вашынгтон забыць пра былыя супярэчнасці. Эксперты называюць шэраг тэм, якія фармуюць амерыкана-в'етнамскую павестку дня. Гэта перш за ўсё актывізацыя кітайскай экспансіі ў Паўднёва-кітайскім моры і перспектывы заключэння Trans-Pacific Partnership — зоны свабоднага гандлю ў Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне, якая, у сваю чаргу, ёсць спробай ЗША захавання кантролю над Ціхаакіянскай зонай для супрацьстаяння ўплыву Кітая і Расіі. Сам факт сустрэчы ў Белым Доме эксперты таксама разглядаюць як следства перастановак унутры в'етнамскай эліты, дзе ўсё больш прагматыкаў-рынычнікаў. Дарэчы, праваабарончыя арганізацыі ЗША не ў захапленні ад візіту в'етнамскага лідара. На іх думку, цяпер тэма парушэння правоў чалавека ў В'етнаме ў дыскусіі Белага Дому адыдзе на задні план. Як бы абвяргаючы гэтыя заявы, чыноўнікі Дзярждэпу прагаварыліся журналістам, што ўмовай далейшых паставак зброі ў В'етнам з'яўляецца якраз паляпшэнне стандартаў грамадзянскіх свабод. Па выніках сустрэчы таксама стала вядома, што Барак Абама плануе візіт у В'етнам напрыканцы гэтага года, што, безумоўна, цягне на сенсацыю.

### Міхаіла Касьянаў



Расійскі апазіцыянер, былы прэм'ер, стаў галоўны антыпуцінскім палітыкам у Расіі, заняўшы 4 ліпеня пасаду лідара Партыі народнай свабоды. Нагадаем, што раней паводле ўстаў, партыяй кіравала калегія сустаршыняў, сярод якіх быў нябожчык Барыс Нямцоў. У Касьянава даволі радыкальныя погляды. Ён, напрыклад, лічыць, што Захад павінен быў умяшацца ў расійска-грузінскую вайну 2008 года, каб не дапусціць анексіі Крыму. Ён таксама раскрытыкаваў гамафобную істэрыку ў расійскіх афіцыйных медыя і запатрабаваў, каб следства па забойству Нямцова праводзілі замежныя дэтэктывы. Цяпер Дэмакратычная кааліцыя (блок расійскіх апазіцыйных партый, дзе ПНС адыгрывае вядучую ролю), рыхтуецца да парламенцкіх выбараў у наступным годзе з праграмай, якая ў тым ліку ўключае ў сябе такія пункты, як «не дапусціць аднаўлення помніка Дзяржынскаму на Лубянскай плошчы» і «вынас цела Леніна з Маўзалею, каб спыніць пакланенне моладзі перад заснавальнікам савецкай дыктатуры». Аналітыкі лічаць, што галоўную праблему падчас падрыхтоўкі могуць складаць унутраны фактары. Дэмакратычная кааліцыя, якая ўключае 6 парстструктур, на месцах вельмі мазаічная, і дэмакратам спатрэбіцца час для прыцiркі пад фігуру Касьянава.

# Бенвенута Чэліні

## Мастак і фальшывуманетчык, авантурыст і патрыёт

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Прыгавораны да пажыццёвай катаргі на нерчынскім рудніку Ігнат Цэйзік заявіў, што яго мэтай было пабольшваць інфляцыю, каб паслабляць расійскую сістэму і такім чынам садзейнічаць вызваленню народаў, дамагаючыся аднаўлення Рэчы Паспалітай, вяртання ў дзеянне Канстытуцыі 3 мая.**

### Гістарычная асоба з ліку жыхароў ваколіц

Біяграфічныя звесткі Ігната Цэйзіка (1779–1860) нешматлікія. У рускай ды беларускай інтэрнэт-прасторы яны папросту адсутнічаюць. Але ўвідавочыць абрысы гэтага персанажа, цікаўнасць да якога ўзнікла перадусім з-за сяброўства і ліставання з адным з пачынальнікаў віленскай мастацкай школы Янам Дамелем, усё ж магчыма.



Мастак Ян Дамель (аўтапартрэт) быў сябрам Ігната Цэйзіка. На жаль, партрэта самога Цэйзіка аўтару нарыса адшукаць пакуль што не ўдалося

Сын каваля Міхала і Ганны Сабалеўскай (кажуць, што з Падляшша) быў яшчэ і ўнукам Якуба — капітана гвардыі ВКЛ. Нарадзіўся Ігнат у маёнтку Лыскава, што пад Ружанамі. У 1798 годзе закончыў тры класы школы і рушыў у Віленскі ўніверсітэт вучыцца жывапісу ў прафесара, доктара філасофіі (па меркаванні Соф'і Лач, даследчыцы з Беластока) Францішка Смуглевіча.

«Гістарычная асоба з ліку жыхароў ваколіцаў», — так характарызуе Ігната Цэйзіка мемуарыст Цыпрынус (псеўданім народжанага ў Слоніме Восіпа Антонавіча Пржэцлаўскага). Бацькі Цыпрынуса арандавалі напачатку XIX стагоддзя ў Францішка Сапегі мястэчка Ружаны.

Цыпрынус — масон, што ў пэўнай ступені тлумачыць адсутнасць яго іканаграфічнай выявы, гадаванец Віленскага ўніверсітэта часоў навучання ў ім Адама Міцкевіча. Асоба блізкая да «філаматкай» моладзі, патрыёт свайго краю, які стаў на кар'ерныя драбіны расійскай імперыі — служыў у Міністэрстве ўнутраных спраў ад 1824 года. Тым не менш, у 1829 годзе ён запачаткаваў у Пецярбургу «Tygodnik Peterburgski» на польскай мове, які ў 1833 годзе набыў статус афіцыйнага выдання «Царства Польскага».

У сваіх мемуарах Пржэцлаўскі адзначаў, што Цэйзік — асоба багата адораная ад прыроды: музыкант (добра граў на розных інструментах, хораша спяваў), скульптар, выдатны маляваўшчык, гравёр і каліграф.

Па нядзелях, калі мясцовыя арандатары збіраліся ў Ружаны на агульны абед, зазвычай прыязджаў і Цэйзік. Шчодра адорваў дзятву ўласнаручнымі вырабамі накшталт цацак са сланковай косці ды бурштыну, адмысловых скрыначак, па-мастацку адштукаваных клетак для птушак. Маці потым доўга выхвалялася перад суседкамі новымі керамічнымі вазамі ды гаршчочкамі, а бацька атрымоўваў у прэзент люлькі з гліны для палення тытуню, драўляныя чубукі, аздобленыя разьбой, і іншую прыемную драбязу.

«Каб Цэйзік прысвяціў сябе выключна мастацтву, то, безумоўна, свет меў бы ў яго асобе другога Бенвенута Чэліні», — падсумаваў мемуарыст.

Але карты лёсу расклаліся інакш.

### Тэракотавыя дэкаратыўна-ужытковыя вырабы Ігната Цэйзіка



### Фальшывы тэатральны білет

Ад 1798 года Ігнат вучыўся на факультэце вытанчаных мастацтваў і літаратуры, у 1802-м перайшоў на фізіка-матэматычны факультэт. Аднак дыплом не атрымаў. Польскія крыніцы сведчаць пра яго цікавасць да хіміі і алхіміі, да французскай філасофіі, гісторыі, літаратуры і мовы. Ці варта казаць, што да зямлі маладзён не вярнуўся.

Хоць жыццё і не надта песціла дробнапамеснага шляхцюка, у якога з уласнасці толькі і засталіся, што «гонар ды годнасць», у роспач той не ўпаў. Пры ім былі мастацкі талент, жывы розум і ахвота да працы. Ён вадзіў сяброўства з мастакамі Янам Дамелем, Язэпам Аляшкевічам, доктарам Юзэфам Лібошыцам, вядомым матэматыкам таго часу Захарыем Нямчэўскім.

Маючы выключныя здольнасці да каліграфіі (а попыт на яе быў вялікі) Ігнат паступіў на службу ў канцылярыю Віленскага ўніверсітэта. Загаловак дыплома (8–9 радкоў) каштаваў дзесяць, а то і болей рублёў, тым не менш, грошай Ігнату не хапала. Нават з тым прыварткам, што атрымоўваў з продажу жывапісных твораў сяброў. Становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што ён, як і ўсе яго сябры, быў вялікім аматарам тэатра. А квіткі каштавалі нятанна.

Віленскія тэатры пачатку XIX стагоддзя, у якіх апрача твораў сусветнай класікі («Рамэа і Джульета», «Атэла», «Эмілія Галоці» і «Скупы»), давалі спектаклі, што сцвярджалі эстэтычныя погляды Асветніцтва, былі «больш незалежныя ад цэнзуры, чым іншыя тэатры Расіі». Таму ўніверсітэцкая моладзь гатовая была ледзь не начаваць у радзівілаўскім палацыку, дзе штотыдзень гралі тры спектаклі. У віленскіх тэатрах таго часу апрача ложаў існаваў «партэр» з лавамі, нумарацыя на якіх адсутнічала.

Са з'яўленнем у жыцці Ігната Цэйзіка паненкі Марыі Качынскай, з якой у 1805 годзе ён пабярэцца шлюбам і пераедзе ў Слонім, грашовая нястача толькі абвастрылася. І тады ён рашыўся: вырабіў невялічкую партыю тэатральных білетаў, потым яшчэ, яшчэ і яшчэ...

> Гром грымнуў, як і заўжды бывае, знянацку, у сярэдзіне 1840-х, калі Ігнат Цэйзік, якому было ўжо за 60, невядома з якой патрэбы наважыўся чаканіць срэбраную манету... «Пошукі сябе ў новым матэрыяле» закончыліся хутка — у Акатуйскім рудніку, «пажыццёва прыкутым да вазка» з парадай

### Напалеонаўскія «фальшачкі»

Але што такое выраб нейкіх тэатральных білетаў, калі падробкі рабіліся на больш высокім узроўні?

Напалеон, геніяльны карсіканец, да паходу на Расію падрыхтаваўся ўсебакова. Фінансава ў тым ліку. Яшчэ задоўга да вайны на ўскрайку Парыжа была арганізавана невялічкая друкарня падробных расійскіх грошай, буйны ўкід фальшывых асігнацыяў быў зроблены пасля пераміра 1808 годзе.

Другая кропка вырабу «фальшачкоў» распачала сваю дзейнасць з абвяшчэннем Герцагства Варшаўскага. Апрача таго, у складзе напалеонаўскага войска на Маскву рухалася 34 фургоны «напалеонавак» — падробных расійскіх асігнацыяў, якімі французскія інтэнданты мусілі былі разлічвацца за фураж.

Разам з гэтай паклажай з Францыі рухалася некалькі «перасоўных друкарак». Лёс адной з іх вядомы. Напалеон, расчулены «хлебам-соллю», і ўвогуле цёплым прыёмам яго войска ў Маскве купецтвам і стараабрадцамі, загадаў перадаць адну друкарку праваслаўнай абшчыне «на вечнае карыстанне».

Куды знікла другая (рэзервовая) друкарка — невядома. Ці не атабарылася яна ў Вільні — горадзе, які Напалеон абвясціў 1 чэрвеня 1812 года сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, і дзе будзе абраны Часовы ўрад ВКЛ? На карысць гэтага меркавання і тое, што менавіта ў Вільні было размешчана сховішча падробных грошай.

«Французскія падробкі асігнацыяў пераўзыходзілі арыгіналы — адрозніваліся больш якаснай паперай, больш выразнымі вадзянымі знакамі, глыбокім рэльефным цісненнем у верхняй частцы банкноты, роўным размеркаваннем літараў у словах асноўнага тэксту», — адзначаюць гісторыкі каштоўных папераў. Быў яшчэ і шэраг іншых прыкметаў, якія дазвалялі адрозніць падробкі ад арыгінала.

Але мінаюць войны, развейваюцца марныя спадзевы, і сябра юнацтва — Ян Дамель — ужо напісаў палатно "Уцёкі войска Напалеона з Вільні", кінуў незакончанай працу "Пераправа праз Бярэзіну". Жыццё працягвалася. Але пры чым тут Цэйзік?

### Справа «фальшывуманетчыка Цэйзіка»

Тым часам Ігнат Цэйзік разам з усёй сваёй сям'ёй (з ім жылі яшчэ брат Фелікс і швагер Дамінік Тырка) змяніў месца жыхарства. Са слонімскага дома цесця Тамаша Качынскага ён перабраўся ў арандаваны пад Слуцкам фальварак Ханусаўшчызна.

І там пачаў дражніць і дзівіць тагачаснае правінцыйнае грамадства сваімі нешараговымі паводзінамі: мала што заклаў і даглядаў элітны сад ды вырабляў цацкі з гліны, але і раздаваў грошы жабракам і валацугам.

Вось як апісваў Цэйзіка адвакат з Валыншчыны (з Ка-

# з-пад Ружан

мянца), што заблукаў да яго ў пошуках саджанцаў ігрушы «сапяжанкі»: «Заспеў гаспадара фальварку, чалавек невялічкага росту, хударлявага, далікатнага і гасціннага ў атачэнні гурмы жабракоў, які цярпліва слухаў іхнія просьбы і енкі. …Ён шмат і захоплена гаварыў штось пра «памалогію» — галіну садаводства, пра неабходнасць увагі, культывавання і вытворчасці, ураджайнасці і захаванні садовых дрэваў».

Але неўзабаве ў 1814 годзе на сядзібе Цэйзіка з'явіліся судовы прыстаў ды жандары. Быў зроблены вобшук. Жандары знайшлі ліставанне з віленчукамі і з мастаком Дамелем. А яшчэ друкарскае абсталяванне, фарбу і паперу для вытворчасці казначэйскіх білетаў. Гаспадара абвінавацілі ў прадукаванні фальшывых асігнацыяў імперыі на 65 000 рублёў. На Цэйзіка надзелі кайданкі і разам з памагатымі Феліксам і Дамінікам адвезлі ў вязніцу.

Справа «фальшывыманетчыка Цэйзіка» доўжылася не адзін год і мела на той час моцны розгалас. Дапытвалі ўвесь віленскі асяродак Ігната. Арыштаваных прывезлі ў Мінск. Прафесар матэматыкі Захарый Нямчэўскі праходзіў па справе ў якасці абвінавачанага. Мастак Ян Дамель быў сведкам, але атрымаў пяць гадоў высылкі ў Заходнюю Сібір. Пакаралі амаль усіх.

Галоўны ж абвінавачваны знік з-пад варты 15 ліпеня 1819 года, і праз пэўны час з'явіўся ў Аўстрыі. Вырак: «Пажыццёвая катаржная праца на нерчынскім рудніку» яму будзе вынесены завочна ў 1820 годзе.



Ружаны


Табольск, від з Успенска сабора (фота з калекцыі С.М. Пракудзіна-Горскага, 1912)


Ружаны. Малюнак Напалеона Орды

## Гульня ў хованкі з імперыяй

Мемуарыст кажа, што і ў Вене Цэйзік займаўся вырабам несапраўдных грошай. Але малаверагодна. Пэўна іншае, расійскія віжы не пакінулі яго ў спакоі. Заўважыўшы пераслед, ён вырабіў дакументы на імя Якуба Чудоўскага і перабраўся на Падол. Арандаваў ва ўладаннях Чартарыйскіх фальварак, з усіх бакоў абкружаны лесам.

Гульня ў хованкі з імперскай уладай доўжылася не адзін год, але скончылася раптоўна. Калі засвяціўся паплечнік Ігната — Фелікс, які купляў гуртамі коней ды валоў, каб прадаваць паштучна, такім чынам, легалізуючы падробныя грошы. Дзесь у Слуцку ці Кобрыне (паводле розных крыніц) той небарака натрапіў на шляхцюка, які пазнаў у ім брата Цэйзіка і пачаў правакаваць апошняга «старой пазыкай» у 300 злотых. Натуральна, што сляды прывялі да Цэйзіка.

На паўторным разглядзе справы аднаго разу прыгавораны да пажыццёвай катаргі на нерчынскім рудніку Цэйзік, разам з крыўдамі на неацэненасць яго таленту і незапатрабаванасць грамадствам, заявіў, што дзейнасць яго не была накіравана на ўласнае ўзбагачэнне. Шкоды дзяржаве як сукупнасці грамадзянаў ён не зрабіў, бо фінансавая сістэма краіны, у якой цалкам уладарыць натуральная гаспадарка, задавольвае патрэбы толькі невялікай купкі абраных, блізкіх да адміністрацыі асобаў. Сваёй жа мэтай ён ставіў пабольшваць інфляцыю і тым самым паслабляць расійскую сістэму. І такім чынам працаваць на вызваленне зняволеных народаў, дамагаючыся аднаўлення Рэчы Паспалітай і вяртання ў дзеянне Канстытуцыі 3 мая.

## Табольская спадчына

У Табольску пакараны жыў законапаслухмяным жыццём, якое нават выклікала сімпатыю і давер у мясцовых паліцыянтаў. Мастацкі талент і апантаная працаздольнасць так падкупілі тамтэйшую адміністрацыю, што адпраўку ў самую страшную турму —«нерчынскі руднік» замянілі на расканвойнае ўтрыманне ў Табольску. Знайшоўся нават дабрадзей Пётр Машынскі, з былых высланых, які з уласных сродкаў прызначыў мастаку стыпендыю.

Жыццё наладжвалася. У Табольску Ігнат Цэйзік другі раз пабраўся шлюбам. Тут у яго нарадзілася двое сыноў, ён пабудаваў уласны дом. Тут быў ацэнены яго мастацкі талент — ну, не вытанчанага графіка, дык скульптара малых формаў. Яго выраб — дэкаратыўнае блюда (копія ў Цюменскім музеі) атрымаў цэсарэвіч Аляксандр (будучы Аляксандр II), калі праязджаў праз Табольск.

Усю дробную пластыку дэкаратыўна-ўжытковага характару — кубкі, вазы, блюды, шклянкі, цукроўніцы, статуэткі — Ігнат Цэйзік рабіў з гліны. Таксама, як і абразы, партрэты ды рэльефныя сюжэтныя кампазіцыі, якімі могуць ганарыцца музеі Чыты, Краснаярска, Табольска, Іркуцка, Масквы і Пецярбурга.

Яшчэ яго працы захоўваюцца ў Музеі Нарадовым у Варшаве, Музеі Войска Польскага, Нацыянальным музеі Кракава, Віленскім мастацкім і Нацыянальным музеі Літвы, Нацыянальным музеі вытанчаных мастацтваў у Каўнасе.



У месцах ссылкі рабіць партрэты пакараных было забаронена. Але пагроза пакарання не перашкодзілі Ігнату Цэзіку зрабіць партрэт-барэльеф дзекабрыста Аляксандра Міхайлавіча Мураўёва (1801–1853), які зараз захоўваецца ў Інстытуце рускай літаратуры («Пушкінскім доме»). Калі ўлічыць, што пакаранне ў ваколіцах Табольска адбывалі рускія дзекабрысты Аненкаў, Арбузаў, Барацянскі, Ентальцаў, Штэйнгель і Свістуноў, то не выключаны і іншыя знаходкі.

## Сустрэча з духоўным братам, або Эпілог

Гром грымнуў, як і заўжды бывае, знянацку, у сярэдзіне 1840-х, калі Ігнат Цэйзік, якому было ўжо за 60, невядома з якой патрэбы наважыўся чаканіць срэбраную манету… «Пошукі сябе ў новым матэрыяле» закончыліся хутка — у Акатуйскім рудніку, «пажыццёва прыкутым да вазка» з пародай.

Не факт, але расійская даследчыца Ямшчыкова-Алтаева запэўнівае, што там Ігнат сустрэўся са сваім духоўным братам, каталікам Міхаілам Луніным. Рускі Праметэй, аўтар трактата «Позірк на таемнае грамадства» быў прыкаваны ў тым жа рудніку кайданамі да сцяны.

Пасля ладнага дзясятка гадоў працы пад зямлёй, у 1857 годзе Ігнат Цэйзік «па старасці» выйшаў з шахты і атрымаў дазвол на пасяленне ў Верхнядзвінску, а неўзабаве і ў Іркуцку, дзе шчодра вырабляў шматлікіх Будаў для «брацкага бурацкага народа». Апрача таго ў Сібіры пачалася мода на мастака, яго тэракотавыя рэчы, ужытковыя, дэкаратыўна-ўжытковыя, а таксам мастацкія — абразы ды сюжэтныя пано — пачалі падрабляць «пад Цэйзіка» і тыражаваць іх… Баюць таксама, што стары і нямоглы мастак паспрабаваў вярнуцца да вырабу грошай…

***

Як ужо было адзначана, творы гэтага мастака захоўваюцца шмат дзе, толькі не ў Беларусі. Дадамо, што, на нашае адчуванне, лепшы з твораў Цэйзіка набыў высланы за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 года Козел-Паклеўскі. Гаворка пра шматпланава-кампазіцыйны тэракотавы аўтапартэт мастака. Агульную плошчу выявы займае сумнавядомая турма — Акатуйскі руднік, за якім — паселішча, што прыляпілася да гарыстага краявіду з заходзячым ці ўзыходзячым сонцам. На другім плане — штольня і некалькі катаржанаў з вазкамі, поўнымі руды. На першым плане Цэйзік у рыззі, прыкуты да вазка, поўнага пароды. Твар сувора-змрочны, з глыбокімі зморшчынамі, вочы пільна ўглядаюцца ў толькі яму бачную далячынь Новага Часу.



Друкарка з абозу Напалеона для вырабу фальшывых расійскіх асігнацый і Напалеонаўская падробка асігнацыі 50 рублёў 1808 г. з вадзяным знакам




U.G.OSLAVIA

# Музычная фітнэс-размінка

Павел АКСІНОВІЧ

**З нагоды святкавання афіцыйнага Дня незалежнасці парк ля «Чыжоўка-арэны» ператварыўся ў канцэртную пляцоўку на «Вялікія выходныя» — фестываль летняй музыкі.**

Мы завіталі сюды ў апошні, але самы насычаны дзень, 5 ліпеня. У нядзелю ўдзел прынялі гурты «U.G.OSLAVIA», «Огонёк Бэнд» і хэдлайнер фэсту — «Без білета».

Першы гурт грае даволі вясёлую і энергічную музыку ў стылі поп-рока і рок-н-рола. Увесь выступ салістка калектыву не стаяла на месцы і добра разагравала наведвальнікаў. Акрамя моладзі, дарэчы, на фестываль прыходзілі цэлымі сем'ямі, ды сталых людзей было нямала. Не так часта ў Мінску праходзяць фестывалі з добрай музыкаю і вольным уваходам.

Пасля выступу «югаславаў» гледачы пачалі выкрыкваць «Без білета», і ўжо падыходзіў іх час па праграме, але на сцэну выйшаў кавер-гурт «Огонёк Бэнд». Калектыў робіць перапевы на вядомыя кампазіцыі ў зусім іншым выкананні ды спявае свае песні. Музычны накірунак можна вызначыць ад ска-рока да шансона. Калі любіце былых «Ляпісаў» да альбому «Манифест», то гурт павінен спадабацца.

Пасля «Огонёк Бэнд», са спазненнем больш за гадзіну паводле праграмы, на сцэну выйшлі «безбілетнікі» — адзін з самых вядомых беларускіх поп-рок гуртоў. Па традыцыі, саліст Віталь Артыст павітаўся з імправізаваным танцплянцам і трыбунамі, калі можна так назваць бакавыя сядзячыя месцы. А далей распачалася фінтэс-размінка пад музыку гурта, якой кіраваў фронтмен калектыву. Артыст па чарзе розным «сектарам» казаў, якую руку ці нагу трэба падымаць, на танцпляцы ўсё атрымалася сінхронна і прыгожа. Падчас усяго выступу захавалася цёплая атмасфера, і наведвальнікі не хацелі развітвацца з гуртом. Агульна выступ працягваўся паўтары гадзіны.

# «ARCHE» прапануе

**У рамках новага распродажу рэдакцыя «ARCHE» прапануе ўсяго за 149 тысяч набыць калекцыю з пяці папулярных публікацый, прысвечаных Заходняй Беларусі.**




Вашай увазе прапануюцца:

**Тэматычны выпуск «Заходняя Беларусь. Міжваенны перыяд»**

Заходнебеларуская спадчына — гэта шмат у чым «нязручнае мінулае». Яно было такім у савецкі час, а з пэўнымі зменамі ды мадыфікацыямі застаецца і цяпер. Натуральна, дзякуючы высілкам акадэмічнай супольнасці, асабліва за апошнія 25 гадоў, было шмат зроблена для лепшага разумення і асэнсавання як міжваеннага перыяду ды верасьнёўскіх падзей, так і асаблівасцяў ды месца Заходняй Беларусі ў пасляваеннай БССР. Шмат «белых плямаў», аднак, застаецца і сёння.

**Тэматычны выпуск «Гарадзенскі мiленiум»**

Асноўнай тэмай дадзенага нумара «ARCHE» стала Гародня як цэнтр прыцягнення. Геаграфічнае становішча дало магчымасць гораду быць важным адміністрацыйным цэнтрам на працягу стагоддзяў. Адпаведна, Гародня паўплывала на рэгіён, стала месцам гістарычных падзей, істотных не толькі для Гарадзеншчыны, але і для краіны. Артыкулы нумара ахопліваюць перыяд ад Сярэднявечча да сучаснасці, дадаючы ў агульную скарбонку новыя веды па гісторыі Гародні і Гарадзеншчыны ў сферы палітыкі, архітэктуры, культуры, эканомікі і інш. Сярод аўтараў нумара — Алег Ліцкевіч, Наталля Сліж, Вячаслаў Швед, Андрэй Кіштымаў, Андрэй Вашкевіч, Таццяна Касатая і іншыя беларускія, польскія і расійскія даследчыкі.

**Ян Шумскі. «Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 гг.): Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі»**

У кнізе паказаныя перамены, якія адбываліся ў 1944–1953 гадах у жыцці і свядомасці жыхароў заходніх абласцей БССР, якія перад Першай сусветнай вайной уваходзілі ў склад Польшчы. На старонках выдання прадстаўлена даследаванне нацыянальнага, кадравага, культурна-асветніцкага і прапагандысцка-інфармацыйнага аспектаў працэсу саветызацыі на акрэсленых тэрыторыях.

**Уладзімір Ляхоўскі. Ад гаманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)**

У манаграфіі, напісанай у форме навукова-папулярнага нарыса, разглядаецца грамадска-палітычная і культурна-асветная праца беларускіх маладзёвых суполак і згуртаванняў у тым ліку ў Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**Ян Станкевіч. «За родную мову й праўдзівы назоў»**

Грунтоўная калекцыя публіцыстычных і навуковых артыкулаў выдатнага заходнебеларускага дзеяча.

Камплект выданняў можна замовіць, даслаўшы электронны ліст на адрас dastauka@arche.by. Замаўляючы выданні, у полі «Тэма» трэба пазначыць «Заходняя Беларусь», а ў лісце — назвы кніг ці часопісаў, якія Вы жадаеце набыць. У лісце трэба, акрамя пераліку замоўленых выданняў, падаць свае дакладныя каардынаты: паштовы адрас, індэкс, прозвішча і ініцыялы, тэлефон для камунікацыі.

Кошт камплекту з пяці выданняў — 149 тысяч (самавываз з рэдакцыі) або 199 тысяч (дастаўка поштай ці кур'ерам). У рамках акцыі можна таксама набыць тры з пералічаных выданняў за 99 тысяч (самавываз) або 149 тысяч (дастаўка поштай ці кур'ерам), або два з пералічаных выданняў за 79 тысяч (самавываз) або 99 тысяч (дастаўка поштай ці кур'ерам).

Акцыя працягнецца да 11 ліпеня. Увага: колькасць камплектаў абмежаваная!

Даведкі па тэл. (29) 5507969.



# Пікнік-фэст запрашае

**1 жніўня ў 35 кіламетрах ад Мінска пройдзе другі штогадовы «Дружба Festival». У гэтым годзе на дзвюх сцэнах опэн-эйра выступяць самыя актуальныя гурты: «J-Морс», «Трубяцкой», «Серебряная Свадьба», «Nizkiz», а таксама «Крама» і «Drum Ecstasy», якія не маюць патрэбы ў прадстаўленні.**

«Дружба Festival» заявіў пра сябе ў 2014 годзе: на першы фестываль прыехала больш за 3000 чалавек, а яго галоўнай разынкай стала атмасфера.

Апроч канцэртаў наведвальнікаў фэсту чакаюць арт-кірмаш, атракцыёны для дзяцей, спартыўныя спаборніцтвы, летнія гульні, конкурсы і многае іншае.

Месцам правядзення фестывалю стане Цэнтр экалагічнага турызму «Станькава», які знаходзіцца непадалёк ад Дзяржынска і акрамя фестывальнай пляцоўкі ўключае ў сябе заасад, рэкрэацыйную зону і музейны комплекс.

На сайтах білетных аператараў можна набыць квіткі на «Дружба Festival», іх цана на дадзены момант складае 280 тысяч рублёў. Па меры набліжэння мерапрыемства цана на квіткі будзе расці.

Сачыце за навінамі фестывалю ў інтэрнэце:

Група Вконтакте: vk.com/drufest

Група Facebook: facebook.com/drufest

«Дружба Festival» — самы цёплы фестываль лета!




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 921

Падпісана да друку 10. 07.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.